PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2112) Год XLI Беласток 27 кастрычніка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Мікола Ваўранюк

## Стагоддзе Яраслава Кастыцэвіча

Сёлета споўнілася сто гадоў з дня нараджэння ЯРАСЛАВА КАСТЫЦЭВІЧА, грамадскага дзеяча, апекуна некалькіх пакаленняў беларускай моладзі, фактычнага стваральніка Бельскага беларускага ліцэя. У кастрычніку ў Бельску-Падляшскім ушаноўвалася памяць гэтага заслужанага нашай грамадскасці чалавека. Дзеткі з Пачатковай школы н-р 3, пад апекай „Зоркі", размалявалі вялікі драўляны крыж, пастаўлены затым каля хаты, у якой ён жыў (пра гэта чытайце ў гэтым нумары „Зоркі"). Беларускае гістарычнае таварыства наладзіла навуковую канферэнцыю, а вучні і настаўнікі Ліцэя Тарашкевіча — сустрэчы з людзьмі, якія памятаюць Яраслава Васілевіча.

**Канферэнцыя...**

...была склікана ў Беларускі ліцэй на 12 і 13 кастрычніка. Па ідэі, яе плён павінен садзейнічаць складанню біяграфічнага слоўніка беларусаў Беласточчыны. З дакладамі пра больш і менш вядомых асоб з нашай зямлі выступілі гісторыкі з Бельска, Беластока, Гродна, Менска і Гданьска. Пра Яраслава Кастыцэвіча і яго продкаў гаварылі Дарафей Фіёнк і Ірэна Матус.

Прадзед, дзед і бацька Яраслава Кастыцэвіча — Адам, Андрэй і Васіль – былі духоўнымі, сто гадоў настаяцелямі спачатку уніяцкага, а затым праваслаўнага прыхода ў Пасынках. Апрача душпастырскай працы, займаліся народнай асветай, падымалі ўзровень сельскай гаспадаркі ў наваколлі, неслі медычную дапамогу сваім прыхаджанам. Як адукаваныя, відныя ў сваю пару людзі, былі яны сведкамі ўсіх важнейшых падзеяў і перамен эпохі: скасавання уніі, польскіх паўстанняў (а. Андрэй узнагароджаны медалём „За усмирение польского мятежа"), гаспадарчага і культурнага развіцця вёскі. Несумненна, Яраславу — патомнаму інтэлігенту, прытым няблага матэрыяльна забяспечанаму, будучыня магла явіцца ў светлых колерах, аж да развалу Расеі. Потым пайшлі войны, новая дзяржава, якая не патрабавала яго адукаванасці (ды і ён у ёй не мог знайсці свайго месца), савецкая турма, нямецкая акупацыя і найбольш плённы перыяд у яго жыцці — гады пасля II сусветнай вайны і дырэктарства ў беларускай школе ў Бельску-Падляшскім. Тая база навучання беларускай мовы ў Бельску, якую маем сёння — Пачатковая школа н-р 3 і Агульнаадукацыйны ліцэй імя Тарашкевіча — створаная, галоўным чынам, Яраславам Кастыцэвічам. Яму абавязаныя сваімі кар'ерамі сотні, калі не тысячы, беларусаў Беласточчыны, якім адкрыў ён дарогу ў шырокі свет.

Прысутная дачка Яраслава Кастыцэвіча, Святлана Сычэўская сказала, што многа прадстаўленых у час ходу канферэнцыі звестак пра яе продкаў — не былі ёй раней вядомыя.



*Дачка Яраслава Кастыцэвіча Святлана Сычэўская ля магілы сваіх продкаў — прадзеда Андрэя і прапрадзеда Адама ў Пасынках.*

Пра іншую святарскую сям'ю — Красноўскіх з Дубіч-Царкоўных — гаварыў у час канферэнцыі Алег Латышонак. Беларускім каталіцкім ксяндзам, звязаным з Беласточчынай, свае выступленні прысвяцілі Лена Глагоўская (Гданьск) і Янка Трацяк (Гродна). Аб „Pamiętnikach" бельскага старасты XVIII ст. Віктарына Кучынскага гаварыла Альбіна Семянчук, а пра „Pamiętniki" Іаахіма Храптовіча і ўвесь гэты буйны магнацкі род — Генадзь Семянчук (абое з Гродна). Вывучэнне гісторыі Беларусі ў XIX стагоддзі і ролю ў гэтым працэсе гісторыкаў з Беласточчыны аналізаваў Сяргей Токць (Гродна), а асобы савецкіх археолагаў з Падляшша Сяргея Дубінскага і Аляксандра Кавалені прадставіў Андрэй Мяцельскі з Менска. Аб удзеле беларусаў у вайне ў верасні 1939 г. у радах Войска Польскага гаварыў Марк Вяжбіцкі з Пёнкаў. Славамір Іванюк ахарактарызаваў адну з крыніц да гісторыі беларусаў Беласточчыны ў нашым стагоддзі — біяграфічны матэрыял, які знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве ў Беластоку.

Завяршэннем канферэнцыі была арганізаваная Дарафеем Фіёнкам экс-

***(працяг на стар. 3)***




*Былы і цяперашні дырэктары Агульнадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча Аляксей Карпюк і Зінаіда Навіцкая ўскладаюць кветкі пад мемарыяльнай дошкай Яраславу Кастыцэвічу.*



*Удзельнікі канферэнцыі (злева): Лена Глагоўская, Ірэна Матус і Аліна Дэмбоўская (кіраўнік музея ў Бельску).*

## Адзіноцтва беларуса

Слухаючы даклады падчас канферэнцыі, сарганізаванай Беларускім гістарычным таварыствам (артыкул Міколы Ваўранюка друкуецца побач), а прысвечанай памяці Яраслава Кастыцэвіча і другіх беларускіх дзеячаў, можна заўважыць, што з іх біяграфій вылучаецца адна супольная прыкмета — адзіноцтва ў змаганні за беларускасць. Калі б прасачыць лёсы ўсіх нашых літаратараў, палітыкаў, вучоных, якія сваю жыццёвую актыўнасць накіравалі на пераўтварэнне беларускай этнаграфічнай масы ў беларускі народ, тады, мабыць, аказалася б, што адзіноцтва побач патрыятызму было б той супольнай рысай, якая іх спалучала.

Стваральнікаў беларускай культуры, дзеячаў, палітыкаў найчасцей адкідала самое беларускае асяроддзе, якому ахвяроўвалі яны сваё жыццё. Вязацца з „беларусам" заўсёды было небяспечна. З прычыны амаль безупыннай акупацыі Бацькаўшчыны чалавек такі заўсёды быў падазроны ў вачах каланізатараў. Тыя, якія яго акружалі, таксама пападалі ў сферу зацікаўлення органаў чужой бяспекі. Часта нават найбліжэйшая сям'я ізалявалася ад бацькі, якога ўсе навокал лічылі дзіваком, нацыяналістам. Добрымі, спакойнымі людзьмі заўсёды лічыліся тыя сыны нашага народу, якія духоўныя каштоўнасці каланізатараў прымалі за свае і адзінаслушныя. Давалі ім за тое медалі, узнагароды, павышэнні, называлі патрыётамі.

Са зместу зачытаных на канферэнцыі дакладаў выплывала яшчэ адна высновa — шмат нашых народастваральнікаў было сынамі святароў ці проста святарамі. На вялікае няшчасце беларусаў абодва вялікія веравызнанні ў Беларусі былі моцна палітызаваныя і аставаліся на службе суседніх народаў, дзяржаў. Нацыянальна свядомых каталіцкіх і праваслаўных святароў касцельныя і царкоўныя улады, часам пры дапамозе дзяржаўных, пасылалі ў тыя куткі свету, дзе не было беларусаў, каб не загаварылі яны да сваіх вернікаў на іх роднай мове.

Некаторыя паняволеныя народы мелі сваю багатую эліту, напрыклад, палякі ў XIX стагоддзі. „Беларусамі" найчасцей была інтэлігенцыя сялянскага ці святарскага паходжання, часам абанкруцілая шляхта. Усе яны, апрача пошукаў сродкаў на нацыянальную дзейнасць, вымушаны былі змагацца за фізічнае праіснаванне свае і сваей сям'і. Большасць была свядома таго, што ніхто і ніколі не падзякуе ім за іх ахвярнасць, а чужыя рэжымы могуць іх толькі зняважаць.

Маўчыць пра іх „белорусская история", расхвальваючы адначасова герояў, якія служылі чужым народам.

Люд у іх беспаспяховай дзейнасці не бачыў свае будучыні, люд думаў (і думае) вельмі рацыянальна. Але праўдападобна неўзабаве нехта скажа: „Быў такі, спакойны, працавіты беларускі люд".

**Яўген Міранович**

# Мы прачыталі

*Одним из главных итогов шестилетнего правления властей на Беларуси является практически полное отсутсвие реформ в экономической сфере. За последние два года произошло уничтожение даже того микроскопического позитива, созданного правительством В. Кебича.*

*В чем причины подобного „белорусского феномена”? Их десятки, но серьезного внимания заслуживают две, причем они очень взаимносвязаны. Во-первых, отсутствие политической воли со стороны власти, во-вторых, психологическая неподготовленность значительной части населения.*

*Психологический фактор сегодня стал политической проблемой, осмыслению которой поможет следующий пример. Тюрьма. Камера 2 х 2. Человек в четырех стенах. Неожиданно распахиваются двери, и он оказывается на свободе. Голубое небо, солнце, бывший заключенный опьянен и счастлив. Но вот приходит время обеда, а его никто не кормит, наступает ночь, но никто не представляет ему крышу над головой. И человек починает тосковать по... тюрьме, по миске баланды, по железным нарам. Бывшему заключенному не создаются условия, чтобы он заработал на хлеб и строил свой дом, но всячески поддерживаются ностальгические вздохи о тюрьме.*

*Народная воля, н-р 86*

* * *

*W Polsce nadszedł czas na amerykański typ osobowości, charakteryzujący się maksymalnym przystosowaniem do otoczenia, małą wrażliwością na konflikty wewnętrzne, nastawieniem na osiągnięcia i zdobycie poparcia. Polacy są przekonani, że swój sukces mogą budować jedynie na pozorach i kłamstwie, a przynajmniej oszustwo stanowi jeden z elementów strategii niezbędnej do osiągnięcia sukcesu. Choć większość Polaków to katolicy, moralność codzienna nigdy nie była ich mocną stroną.*

*Wprost, nr 40*

* * *

*Спраўдзіліся прадчуванні арганізатараў ранейшага Беларускага клубу (у васемдзесят дзевятым): найперш чымсьці ўтварыць палітычную партыю, трэба школенасці аспірантам у палітычнае жыццё. Пераважыў тады, аднак, малапісьменны энтузіязм, маладая нецярплівасць, і ў выніку нарадзілася Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне,* — піша Сакрат Яновіч.

*Czasopis, nr 10*

Спадар Сакрат, адкуль у Вас гэты мазахізм? Чаму называеце сябе: „маладым нецярплівым і малапісьменным энтузіястам”. Звярніце ўвагу, з якім энтузіязмам заклікалі Вы ўсіх непісьменных беларусаў у партыю, якая мела называцца „Грамада”, але неяк атрымалася БДА („Ніва”, 01.10.1989 г.). Не трэба гэтага саромецца. Большасць „малапісьменных” сяброў клуба на сходзе арганізацыі ў Валілах 03.09.1989 г. была супраць змены формы дзейнасці (Вы пакінулі Клуб у ліпені 1989 г.), але выпрашыла тады ні ў якім выпадку не перашкаджаць Вам у правядзенні эксперыменту з партыяй, а нават дапамагчы ў яе арганізацыі. Быў гэта апошні сход Беларускага клуба. На практыцы перамагла Ваша канцэпцыя палітычнай актыўнасці беларусаў у Польшчы. Ці трэба аднак бачыць гэтае прайгранае нядаўняе мінулае ў катэгорыях „малапісьменнасці” Вашых тадышніх калегаў? Поспех у галіне палітыкі ў нашых сучасных псіхалагічных і грамадскіх умовах патрабуе лідэра з менталітэтам Сашы Лукашэнкі. Шмат такіх надзейных асобеняў круціцца па Беласточчыне. Праўдападобна нехта іх выкарыстае. Але на тое трэба асаблівага этычнага падыходу да палітыкі, якога цяжка шукаць у <u>заснавальнікаў</u> Беларускага клуба.

* * *

*Ludowcy z Polskiego Stronnictwa Ludowego osiągnęli najwyższą mistrzowską klasę w kategorii — jak być w opozycji, a jednocześnie rządzić. Przy okazji zbliżyli się do ideału w kategorii — jak współrządzić i nie ponosić politycznej odpowiedzialności.*

*Polityka, nr 40*

* * *

*W czasie tegorocznej parady Pułaskiego w Nowym Jorku na Manhatanie pojawiła się organizacja polskich lesbijek i gejów. Brawo! Nareszcie! Witamy! — wołali przeważnie młodzi rodacy na widok idącego na przedzie geja w krakowskim stroju ludowym. Atmosfera gęstniała, im bliżej było do katolickiej katedry św. Patryka. Pedały, wyp...dalać — krzyczała grupka nastolatków z Białegostoku.*

*Gazeta Wyborcza, nr 235*

* * *

*Popyt na wódkę mamy stabilny — 146 milionów litrów rocznie. Ale moce wytwórcze naszych gorzelni są większe — wynoszą 200 mln litrów rocznie. Oznacza to, że o klientów trzeba zabiegać.*

*Polityka, nr 40*

Нейкі жарт! Трэба толькі знізіць цану, а продаж павысіцца да 500 мільёнаў літраў. Чэргі нанава стануць перад крамамі, а і людзі павесялеюць.

* * *

*Sprzedam: stemple stropowe taty; cegła obrót zbrojeniowy; patelnię elektryczną; taboret elektryczny.*

*Kurier Poranny, nr 231*

У пекле праводзяць перападлік маёмасці. Для сучасных грэшнікаў рыхтуюць новыя прылады.

# З мінулага тыдня

**Уільям Перы** — дзяржсакратар ЗША — адмяніў планаваны візіт у Беларусь. Прычынай гэтаму быў ход палітычных падзей у Менску ў апошніх месяцах. Беларусь у далейшым мае 18 ядзерных ракет СС-25 і няма ніякай гарантыі, што згодна ранейшым дамоўленасцям да канца года будуць яны выведзены з тэрыторыі рэспублікі. Адмова выканання беларускім бокам заключаных раней пагадненняў і адкрытая антызаходняя пазіцыя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі можа прыбавіць амерыканскай адміністрацыі шэраг клопатаў. Таму Вашынгтон узмоцніў апошнім часам націск на ўладныя структуры ў Менску. Апрача адмены візіту дзяржсакратара, амерыканскія ўлады павялічылі дапамогу пазаўрадавым арганізацыям у Беларусі, аказалі палітычнае прыстанішча двум лідэрам БНФ, а таксама параілі вялікім амерыканскім карпарацыям, такім як МакДональд і Форд, не накіроўваць больших інвестыцый на Беларусь. Падобная насцярожанасць наглядаецца і ў Кангрэсе ЗША, які ў законе аб замежнай дапамозе на 1997 год спыніў усялякую гаспадарчую дапамогу для Беларусі.

**Еўрарэгіён Нёман — партнёрства дзеля развіцця** — так называлася міжнародная канферэнцыя ў Голдапе для лакальных самаўрадаў пагранічча Беларусі, Літвы, Польшчы і Расеі. Арганізатарам сустрэчы выступіла Бюро Еўрарэгіёна Нёман у Сувалках пры падтрымцы Фонду Эберта, сувальская ваяводы і Польскалітоўскай гаспадарчай палаты. Мэта канферэнцыі — пераканаць самаўрадавых дзеячаў да ідэі стварэння адкрытага трансгранічнага саюза гмін, адміністрацыі і ўстаноў. Пачаткова Еўрарэгіён мае абымаць чатыры раёны Калінінградскай вобласці Расейскай Федэрацыі, два паветы Літоўскай Рэспублікі, Сувальскае ваяводства і Гродзенскую вобласць.

**У Супраслі** адбылася рабочая нарада службаў унутраных спраў наконт аховы ўсходняй мяжы. Большасць з 12 тысяч нелегальных эмігрантаў, якія штогод прыбываюць у Польшчу, перапраўляюцца цераз усходнюю граніцу. Апрача каардынацыі дзеянняў паасобных службаў і адміністрацыі, Міністэрства ўнутраных спраў перадасць пагранічнікам два верталёты для патрулявання ўсходняй мяжы.

**У Крыніцах** пад Беластокам польскія і чэшскія мантажнікі паставілі на новай тэлекамунікацыйнай мачце гіганцкую тэлевізійную антэну, дзякуючы якой другая праграма тэлебачання і тэлеканал „Польсат” будуць прымацца ва ўсіх мясцовасцях паўночна-ўсходняга рэгіёна. Крыніцкая канструкцыя — самае высокае інжынерскае збудаванне, узведзенае ў гэтым годзе ў свеце. Разам з антэнай яе вышыня складае 330 метраў.

**Цэнтр прыродазнаўчай адукацыі** пры Белавежскім нацыянальным парку, які нядаўна быў адкрыты ў Белавежы, змяшчаецца ў самым старым будынку з 1845 г. Вядзе ён дзейнасць сярод дзяцей і моладзі на тэрыторыі парку і Белавежы. Працуюць у ім чатыры асобы, а абсталяванне і дапаможнікі забяспечыў Нацыянальны фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі.

**У Белавежы** адбылося адкрыццё ачышчальні сцёкаў, якая прадухіліць забруджванне ракі Нараўкі і пушчанскіх лясоў. Па-за сістэмай каналізацыі знаходзяцца яшчэ каля 500 індывідуальных аб'ектаў, якіх сцёкі адводзяцца проста ў грунт. Калі гміна атрымае адпаведныя датацыі, то ў першую чаргу пачнецца будова каналізацыі на вул. Вашкевіча і Трапінка, а затым у сялэцтве Застава.

# Неўзабаве ў „Ніве”

- **Быць беларусам у цэнтры Мазураў** — рэпартаж Ады Чачугі пра Пятра Германюка з Аўгустава.
- **Вершы Віславы Шымборскай** у перакладзе Сакрата Яновіча на беларускую мову.

# Весткі з Беларусі

**Прэзідэнт ігнаруе парламент**

Вярхоўны Савет адкінуў прэзідэнцкі праект правядзення канстытуцыйнага рэферэндуму 7 лістапада. У галасаванні прыняло ўдзел 178 дэпутатаў, з ліку якіх 84 падтрымалі прэзідэнта, а 87 выказаліся супраць. Аляксандр Лукашэнка яшчэ перад галасаваннем пакінуў Авальную залу ўсхваляваны тайным спосабам галасавання і драматычным выступленнем старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, які заявіў, што ўвядзенне прэзідэнцкага праекта канстытуцыі будзе раўназначнае са з'яўленнем у цэнтры Еўропы таталітарнага рэжыму. Прэзідэнт у сваю чаргу заявіў, што з гэтага моманту ён ігнаруе парламент і будзе кантактавацца з народам непасрэдна.

**Візіт у трыбунал**

Дэлегацыя Канстытуцыйнага суда наведала з афіцыйным візітам Рэспубліку Польшча па запрашэнні прэзідэнта Канстытуцыйнага трыбунала Анджэя Цоля. Разглядаліся шляхі пашырэння і замацавання супрацоўніцтва паміж Канстытуцыйным судом Беларусі і Канстытуцыйным трыбуналам Польшчы, праблемы забеспячэння канстытуцыйнай законнасці, заканатворчасці, рэфармавання прававых сістэм у абедзвюх дзяржавах. Візіт беларускай дэлегацыі ў Польшчу мае важнае значэнне яшчэ і таму, што Канстытуцыйны трыбунал гэтай краіны з'яўляецца цяпер штаб-кватэрай Савета канстытуцыйных судоў Еўропы.

**Абыякавасць да выбараў**

Шматлікія факты парушэння заканадаўства краіны па выбарах дэпутатаў у парламент Беларусі і дэпутатаў мясцовых саветаў выяўлены ў выніку праверкі работнікамі Цэнтрвыбаркама рэспублікі. Праверка прайшла па ўсіх абласцях і ў горадзе Менску. Да гэтага часу многія акруговыя камісіі не пачалі яшчэ працаваць. У большасці абласцей гарадскія выканаўчыя камітэты не паведамілі выбаршчыкам праз сродкі масавай інфармацыі аб месцазнаходжанні акруговых выбарчых камісій. Цэнтрвыбаркам накіраваў матэрыялы праверкі ва ўсе аблвыканкамы і абласныя саветы, а таксама пракурорам абласцей для ўстаранення выяўленых недахопаў і прыцягнення да адказнасці службовых асоб, якія дапусцілі парушэнне закону.

**Кніга пра Лукашэнку**

У канцы года павінна ўбачыць свет мастацка-дакументальная аповесць „Першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь”. Яе аўтар — кандыдат гістарычных навук, пісьменнік Уладзімір Якутаў. З-пад яго пяра выйшлі аповесці пра Пятра Машэрава і Сяргея Прытыцкага, Усевалада Ігнатоўскага і Аляксандра Чарвякова. Дарэчы, першая кніга пра прэзідэнта Беларусі выйдзе агульным тыражом больш за 200 тысяч экземпляраў. Распаўсюджванне выдання плануецца як у Беларусі, так і за яе межамі.

**Акцыя „Тыдзень маці”**

Указам прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі 14 кастрычніка ў Беларусі адзначаўся Дзень маці. На сем дзён раней у сталіцы рэспублікі Беларускі саюз жанчын і Менскі гарадскі выканаўчы камітэт пачалі праводзіць сумесную акцыю — Тыдзень маці. У яго рамках святкаваліся Дні маладой маці, мнагадзетнай маці і маці, якія страцілі сыноў у мірны час (Афганістан, Чачня). Адзін дзень прысвечаны быў бабулі. Быў таксама Дзень жаночай прыгажосці, а ў раёнах горада праводзіліся бясплатныя кансультацыі касметолагаў і юрыстаў. Такія ж Тыдні маці арганізаваліся і ў іншых гарадах рэспублікі.

**Ваенныя базы — турыстам**

Цікавыя перспектывы выкарыстання былых ваенных аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, былі прапанаваны ў Менску на III Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай эканамічным і экалагічным аспектам дэмілітарызацыі. На думку навукоўцаў, шэсць аб'ектаў стратэгічных войскаў Расеі, якія перадаюцца Беларусі, можна было б пераўтварыць у базы міжнароднага турызму. У дзяржавах з пераходнай эканомікай, у лік якіх уваходзіць Беларусь, турызм звычайна разглядаецца як адна з крыніцаў даходу ў дзяржаўную казну і як фактар занятасці насельніцтва. Таму магчыма неўзабаве планы па рэарганізацыі былых ваенных аб'ектаў у турыстычныя базы стануць рэальнасцю.

# Што ў Чаромсе?

Мой візіт у войта Чаромхаўскай гміны атрымаўся зусім выпадкова.

— З чым добрым, пане Сідарук, прыходзіце? — ветліва вітаючыся, пытае спадар войт.

— Я з бядою!.. — жартаўліва адказваю.

Аднак, калі апынуліся мы ў кабінеце гаспадара гміны і я, карыстаючыся нагодай, расказаў набалелае, спадар Міхал Врублеўскі сказаў:

— Справа беспрацоўя на нашай тэрыторыі сапраўды складаная. Даўней праблемы на рынку працы развязвала чыгунка. Зараз самыя чыгуначнікі шукаюць у гміне ратунку. У нас, як і ў суседніх гмінах, працы няма! Толькі ў рамках інтэрвенцыйных работ больш сарака чалавек знаходзіць у нас зараз працу. Аднак і тут нешта зменіцца ў наступным годзе, — працягвае мой субяседнік. — Пасля новага года мы самі з гміннага фонду будзем аплачваць гэтых рабочых. (Дагэтуль рабіла гэта Раённая ўправа працы ў Гайнаўцы.)

Зважыўшы тое, што гмінны рабочы з інтэрвенцыйных работ атрымоўвае (з усімі належнымі дабаўкамі) больш за чатыры мільёны старых злотаў, мы зможам даць працу не 41 рабочаму, як дагэтуль, а толькі для 25—27. Праўда, апошні візіт прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча ў верасні г.г. на пагранічным пераходзе ў Пяшчатцы—Полаўцах дазваляе аптымістычна глянуць на тыя справы, аднак гэта толькі будучыня.

Тут я даведаўся, што ёсць рэальная магчымасць пераўтварэння дарожнага пагранічнага пункта каля Чаромхі з „польска-беларускага" на „міжнародны".

— У мяне на гэтае мерапрыемства фінансавых сродкаў няма, — канстатаваў нядаўна прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч, — але калі ў вас знойдуцца на месцы грошы, я са свайго боку пацікаўлюся справай, і паспрабую вырашыць праблему па закону з беларускім урадам...

— Калі б было так у сапраўднасці, — уздыхае спадар войт, — штаты працаўнікоў на пагранічным пераходзе у Полаўцах павялічыліся б. Аднак тысяча гэта толькі мытнікаў і вайскоўцаў з Гранічнай аховы, на якіх мы зусім уплыву не маем.

Спадар Міхал Врублеўскі дабавіў, што Падляшскае аддзяленне Гранічнай аховы ў Беластоку вельмі прыхільна адносіцца да той праблемы і яго шэф абяцаў, што знойдуцца ў іх на гэтае мерапрыемства фінансавыя сродкі.

— А што з пажарнікамі? — пытаю войта. — Ужо зараз канец года, а праблема надалей нявырашана... Вы, здаецца, казалі, што нашы паслы ангажаваліся ў справу?

— Гэта праўда, — адказвае спадар Врублеўскі. — Пасла аднак зараз у водпуску, але калі вернуцца, я паспрабую наладзіць з імі сувязь.

— Скажыце праўду, пане войт, у чым „загвоздка"?

— А ў тым, што некаторыя начальнікі праблем баяцца, і не намагаюцца „перасільвацца".

— Ёсць жа дзяржаўны закон...

— Апрача гэтага закону, я справай цікавіў прэм'ер-міністра Цімашэвіча на сустрэчы ў Нараўцы асабіста, — кажа спадар Врублеўскі . — Дабіўся, што галоўны камендант Пажарнай аховы з Варшавы ў мясцовым „Калеяжу" (значыцца ГОКу) слухаў доказаў нашых радных аб рэальнай патрэбе стварэння каманды Państwowej Straży Pożarnej — Jednostki Ratowniczo-Gaśniczej у Чаромсе, а ў гэтым месцы, вось за гэтым сталом, пры пачастунку, гэты ж сам ген. Дрэля абяцаў, што канчаткова вырашыць праблему... У мінулым годзе гэта было...

— Дык што ж?..

— Ваяводскі камендант пажарнікаў у Беластоку асмеліўся мне публічна заявіць, у прысутнасці ўсіх войтаў, што пакуль ён будзе тут начальнікам, стражы пажарнай у Чаромсе не будзе. Бо як мне здаецца, гэту пажарную часць „перамясціў" ён з Чаромхі ў Фасты... Сумнае, аднак праўдзівае. Закон законам, а жыццё сваім рэчышчам плыве.

Ндарам прымаўка кажа: „Як малы зробіць, большы не паправіць!" Няма „моцных" на такіх начальнікаў, як у Ваяводскай камендатуры Пажарнай аховы ў Беластоку. Калі ўжо ягоны вышэйшы начальнік — галоўны камендант з Варшавы, а нават сам прэм'ер-міністр не асмельваецца крануць яго з месца, дык што ж з такім зваяваць можа бедны войт Чаромхаўскай гміны?

Ды не толькі застаецца нявырашанай праблема чаромхаўскіх пажарнікаў. Як мне ўдалося даведацца, справа здачы ў карыстанне АТС у 1997 годзе на пошце ў Чаромсе таксама памерла сваёй смерцю. Начальнік з Ваяводскага праўлення тэлекамунікацыі ў Беластоку, як і камендант пажарнікаў, адчувае пэўны „жаль" да чарамшукоў, што не падтрымалі яе кандыдатуры ў Сенат. Так што пэўна я і не дачакаюся тэлефона ў хаце, пакуль жыць буду. Бо такія начальнікі, як вышэйзгаданыя, даволі „жывучыя".

І справа апошняя. На кузаўскай вуліцы надалей небяспечна! Праўду сказаўшы, паліцэйскі аўтамабіль часценька маланкай праімчыцца праз Кузаву, аднак і платы надалей падаюць „ахвярай" шафёраў.

Еду сёння, напрыклад, ад прыяцеля з вёскі і бачу (13 кастрычніка, значыцца), што плот каля сядзібы Параскевы Р. „трупам" паваліўся. Толькі след колаў аўтамабіля на гравейцы пры асфальце застыў...

Гэтае ўжо пакідаю без каментарыя чаромхаўскім сторажам парадку!

**Уладзімір Сідарук**

# Дзе ж ваша эканоміка, спадар дырэктар?

У 7(2075) нумары „Нівы" ад 18 лютага г.г. у сваёй публікацыі „Балаган ці эканоміка?", я кранаў праблему неакуратнай распрацоўкі новага раскладу цягнікоў, які быў уведзены дзяржаўнай чыгункай ад 29 мая г.г.

Праўду кажучы, праблему курсіравання цягніка з Чаромхі ў Беласток зранку ў 6.30 надумаліся „ўрэшце" вырашыць чыноўнікі Цэнтральнай дырэкцыі ПКП. Ды якім коштам? Забралі проста цягнік ад'язджаючы з Чаромхі ў 5.06! Цяпер чарамшукі (і жыхары суседняй Кляшчэлеўскай гміны) вымушаны ехаць раней, у 4.17. „Запозна было ехаць у 8.10 ці ў 10.39, тады едзьце ў 4.17", — пэўна думаюць у сталіцы! Ды справа не так маецца. Каб паехаць з Беластока ў Бельск-Падляшскі ў 3.55 трэба падасланы з Чаромхі ў Беласток парожні састаў і абслугу цягніка. Такім чынам ужо напярэдадні, да цягніка Брэст—Беласток у 20.05 пастаўляецца другі лакаматыў. На чыгунцы называюць гэта „podwójna trakcja". У тую ж пару едзе свабодна кіраўнік цягніка. Тры працаўнікі маюць дзве гадзіны незанятага часу і непатрэбны начлег у Беластоку. Яны пачынаюць працу на цягніку н-р 88750 і ад'язджаюць у Бельск-Падляшскі ў 3.55.

Хто едзе гэтым цягнікам? Як мне сказалі чаромхаўскія чыгуначнікі, усяго адзін, два, а часам і аніводнага пасажыра. Адна абслуга!

У Бельск-Падляшскі цягнік прыбывае ў 5.06 (у тым часе ад'язджаў бы з Чаромхі) і чакае да 5.56 (у тым часе прыйшоў бы ён з Чаромхі). У 5.56 цягніком 88751 службовы персанал вяртаецца назад у Беласток, каб у 9.40 пасля „закончанай службы" на двух лакаматывах цягніком Беласток—Брэст вярнуцца ў Чаромху. Навошта тады спыняць курсіраванне цягніка на адрэзку Чаромха—Бельск-Падляшскі?

На маю думку гэта цягнік у 4.17 менш патрэбны чарамшукам (раней ён курсіраваў толькі ў выхадныя дні, а гэты а 5.06 — у рабочыя). Зараз усё перавярнулі ў Варшаве дагары нагамі.

І дзе ж ваша эканоміка, спадар дырэктар? Начальнік перавозна-гандлёвага бюро ЦДОКП пасдаў у Чаромху ў 1994 г. адказ войту гміны і начальнікам пяці чыгуначных прадпрыемстваў, у якім канстатаваў, што скасаванне цягніка з Чаромхі ў 6.30 было „выклікана абгрунтаванымі эканамічнымі ашчаднасцямі, якія зводзяцца да паляпшэння абароту чыгуначных саставаў, выключэння лішніх прастояў і падсылкі пустых саставаў..."

А зараз што робіцца? Амаль 80 кіламетраў „гоніцца" цягнік (у адзін бок) з трохасабовай абслугай, каб перавезці некалькі пасажыраў. Хто (і каму) зрабіў такую недарэчнасць? Няўжо на чыгунцы не хапае сапраўдных эканамістаў, якія па-гаспадарску задбалі б пра свае фінансы? На маю думку, гэта маштабная „палітыка" зводзіцца... да ўласнай (а не агульнаграмадскай) карысці пэўных высока пастаўленых персон, паколькі ў ходзе прыватызацыі ўсё дазваляецца. Шкада, што мы, звычайныя людзі, не маем на гэта ўплыву.

**Уладзімір Сідарук**

## Стагоддзе Яраслава Кастыцэвіча

*(працяг са стар. 1)*

курсія па месцах, звязаных з сям'ёй Кастыцэвічаў. У аўтобуснай паездцы ў Орлю, Дубічы-Царкоўныя, Старым Корнін і Пасынкі прынялі ўдзел таксама дзеткі з „тройкі", якія размалёўвалі ўспомнены крыж.

**Ушанаванне памяці школай**

14 кастрычніка — у польскіх школах традыцыйны „Дзень настаўніка", з якім не да канца вядома, што рабіць. Паводле распараджэння міністра адукацыі, моладзь у гэты дзень у школе быць павінна, хаця не рэкамендуецца весці нармальныя ўрокі. У Ліцэі Тарашкевіча рашылі прысвяціць яго ўшанаванню памяці будаўніка школы.

На сустрэчы з моладдзю былі запрошаны вучні Яраслава Кастыцэвіча, настаўнікі-пенсіянеры, якія яго ведалі, дачка Святлана. Кожны клас, у сваю чаргу, падрыхтаваў кароткую інфармацыю пра Кастыцэвіча ды прысвечаную яму мастацкую частку. Затым, пасля камерных спатканняў у класах, усе супольна ўсклалі кветкі ля мемарыяльнай дошкі ў школе ды занеслі вянок на магілу і памаліліся за душу пакойнага.

* * *

У ходзе гэтых юбілейных мерапрыемстваў паявіліся галасы аб прысваенні імя Яраслава Кастыцэвіча адной з бельскіх школ, якія ён ствараў. Паколькі ў ліцэя ёсць ужо патрон — і супраць Браніслава Тарашкевіча ніхто нічога не мае — здаецца, застаецца „тройка". Што на гэта дырэкцыя, настаўнікі школы? Бельскае беларускае асяроддзе?

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Няздзейсненыя пошукі

**Па слядах „Іліяды" Гамера ў перакладзе Браніслава Тарашкевіча**

У разважаннях над перакладам Браніслава Тарашкевіча на беларускую мову „Іліяды" Гамера насоўваюцца асноўныя пытанні:

I. Ці Браніслаў Тарашкевіч пераклаў з грэчаскай на беларускую мову „Іліяду" Гамера поўнасцю, ці толькі яе частку?

II. У якім часе зрабіў пераклад?

III. Які лёс перакладу?

* * *

I. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі (т. II з 1985 г., с. 26) падае, што Браніслаў Тарашкевіч пераклаў толькі фрагменты „Іліяды", апублікаваныя ўпершыню ў 1935 г.

Якая аснова такога сцвярджэння? „Полымя рэвалюцыі" фактычна апублікавала ў 1935 г. фрагменты „Іліяды" ў перакладзе Б. Тарашкевіча. Незразумелым аднак з'яўляецца факт праігнаравання рэдактарамі згаданай Энцыклапедыі ранейшых доследаў і доказаў, якія супярэчаць іх інфармацыі:

1. Віленскі „Беларускі звон" ад 11 сакавіка 1922 г., а пасля ад 25 сакавіка 1922 (н-р 7 і 9) апублікаваў пачатак „Іліяды" ў перакладзе Б. Тарашкевіча.

2. На судовым працэсе Грамады ў 1928 г. адвакат Яўген Смяроўскі ў абарончай прамове м.інш. заявіў, што Тарашкевіч (якога пракурор назваў „паўночным варварам") у польскай турме пераклаў *да апошняга верша* (вылучэнне — Я. Ж.) „Іліяду" Гамера з грэчаскай на беларускую мову (A. Bergman „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu").

3. І ў рэшце рэшт неаспрэчным доказам з'яўляецца рукапіс аўтабіяграфіі Б. Тарашкевіча з 1936 г., у якой ён піша: „**полный перевод** гексаметром с греческого на белорусский язык „Илияды" Гомера принят Белгосиздатом к печатанию" (вылучэнне — Я.Ж.).

На маю думку, вышэйпрыведзеныя доказы несумненна сведчаць аб неабаснаванасці згаданай інфармацыі, памешчанай у энцыклапедыі, і пацвярджаюць, што Б. Тарашкевіч зрабіў поўны пераклад „Іліяды" на беларускую мову.

* * *

II. Час перакладу ў бібліяграфічных матэрыялах фактычна не акрэслены адназначна, але супастаўленне розных здарэнняў у біяграфіі Б. Тарашкевіча і залежнасці між імі паказваюць прыблізны перыяд працы аўтара над перакладам „Іліяды".

Пасля атрымання атэстату сталасці ў 2-ой гімназіі ў Вільні ў 1911 г., Б. Тарашкевіч паступіў на гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Яго асаблівым зацікаўленнем стала класічная філалогія: грэка і латынь.

Не без значэння для паглыблення класічных ведаў сталася неабходнасць даваць прыватныя ўрокі грэчаскай і лацінскай моў, дзеля здабыцця сродкаў утрымання. Працавіты і здольны Браніслаў выпрацаваў унесці свой уклад у галіну класічных ведаў і стаў перакладаць „Іліяду" Гамера на беларускую мову. У гімназіі, хоць прымаў ён удзел у польскім незалежніцкім і культурным руху, з'яўляўся беларусам, а ў Пецярбургу стаў удзельнікам навуковага гуртка Аляксандра Разенфельда, які займаўся беларускай праблематыкай. У такіх абставінах выбраў ён беларускую мову для перакладу „Іліяды" з мэтай пашырэння значэння і магчымасцей для невыкрышталізаванай яшчэ цалкам літаратурнай мовы свайго народа. Здольнасці і магчымасці студэнта не маглі не заўважыць вядомыя ў той час універсітэцкія філолагі-славісты: акадэмік Аляксей Шахматаў, творца беларускага мовазнаўства Яўхім Карскі і Браніслаў Эпімах-Шыпіла — беларускі выдавец і мовазнаўца. Яны дaручылі Б. Тарашкевічу збіранне матэрыялаў і апрацаванне падручніка граматыкі і сінтаксісу беларускай мовы.

У 1916/1917 гг. Б. Тарашкевіч быў заняты экзаменамі і апрацаваннем беларускай граматыкі. Ведзены неабходнасцю і прагай як найхутчэйшага выдання беларускай граматыкі, у 1918 г. ён перабраўся цераз Фінляндыю ў Вільню, дзе ажыццявіў свой намер і прысвяціў сябе поўнасцю працы над беларускай філалогіяй ды нацыянальнай асветай наогул. Менскі яго перыяд — гэта час інтэнсіўнай асветніцкай працы, у асноўным прысвечаны аднаўленню дзейнасці настаўніцкага беларускага інстытута, пераведзенага ў 1918 г. з эвакуацыі з Яраслаўля. У канцы 1920 г. Б. Тарашкевіч паступова ангажуецца ў палітычную працу, не пакідаючы асветніцкай. (Апублікаванне пастулатаў і патрабаванняў беларускага грамадства да польскага ўрада, праца на пасадзе начальніка беларускай секцыі ў ведамстве асветы ўрада Сярэдняй Літвы, створанага Люцыянам Жалігоўскім.) Паглыбляючыся ў палітыку, прысвячае ёй у наступныя гады ўвесь час і высілак аж но да дня арышту 14 студзеня 1927 г. У той час ён не мог сабе дазволіць на прыемнасць працы над перакладам „Іліяды". Перапынены пераклад прадоўжыў толькі ў польскіх астрогах.

Вышэйсказанае сведчыць аб тым, што апублікаваныя ў 1922 г. фрагменты „Іліяды" — вынік працы аўтара перакладу з яго студэнцкіх гадоў, прыблізна ад 1913 да 1916 года. Гэта быў перыяд, калі Б. Тарашкевіч найбольш цікавіўся класічнай літаратурай. Меў час яе перакладаць. Ды, што вельмі важнае, — непаўторныя ў яго жыцці магчымасці скарыстання неабходных навуковых дапаможнікаў. Фактычную ступень перакладзенага ў Пецярбургу тэксту цяжка ўстанавіць, тым больш не маючы яго цэласці.

Арсень Ліс, спасылаючыся на газету „Родная страха" ад 7 сакавіка 1928 г., прыводзіць цытату наступнага зместу: «Прафесар Б. Тарашкевіч пералажыў з грэцкай на беларускую мову першую песню старажытнай грэцкай паэмы „Іліяда" Гомэра» (Браніслаў Тарашкевіч, „Выбранае", Мінск 1991, с. 24). Інфармацыя гэта адносіцца да часткі перакладу, поўнасцю падрыхтаванага да публікацыі („Беларускі звон" ад 11 і 25 сакавіка 1922 г.) і яе нельга, на маю думку, атаясамліваць са ступенню фактычна выкананай працы над перакладам у тым часе.

Паколькі працэс перакладу „Пана Тадэвуша" дастаткова ахарактарызаваны ў публікацыях, то на тэму „Іліяды" некалькі даволі лаканічных заўваг не даюць магчымасці акрэсліць прапорцыі перакладу, зробленага да зняволення ў астрозе.

У заяве да пракурора ад 5 сакавіка 1933 г. Б. Тарашкевіч піша: «W więzieniu przetłumaczyłem na język białoruski „Iliadę" Homera i „Pana Tadeusza". Od dłuższego czasu pracowałem nad gramatyką języka białoruskiego»... Зварот „przetłumaczyłem" — прошлага часу і законачанага трывання — сведчыць аб завершаным перакладзе і можна яго зразумець як намёк на поўнае тлумачэнне ў турме. Інтэрпрэтацыі такой супярэчаць папярэдня інфармацыі (напр. аб публікацыі ў „Беларускім звоне" ў 1922 г.). Па-другое — улічваючы важны матыў просьбы (прадухілянне пераводу з віленскай турмы і спатканне з маці), вязню залежала на сіле аргументацыі.

Вышэйзгаданы адвакат Яўген Смяроўскі ў абарончай прамове пакарыстаўся фармулёўкай „przetłumaczył w więzieniu do ostatniego wiersza «Iliadę»". Прымяненне ўзважанай фармулёўкі „да апошняга верша" пазбягае акрэслення напр., „у цэласці", ці „большую частку". Літаратурная афарбоўка сказа фармулёўкай „да апошняга верша" разлічана была на выклікання большага ўражання.

Адам Мальдзіс у артыкуле „Эпапея перакладзеная ў турме" („Голас Радзімы", н-р 24 ад 19 чэрвеня 1980 г.) ставіць пытанне: „Чаму Б. Тарашкевіч, знаходзячыся ў турэмным зняволенні, выбраў для перакладу — побач з „Іліядай" Гамера — менавіта „Пана Тадэвуша"? Аднак і ў гэтым выпадку „Іліяда" скарыстаная толькі мімаходзь як дабавачны аргумент да разважанняў пра пераклад „Пана Тадэвуша", каб звярнуць увагу чытача на ранг зацікаўленняў аўтара перакладу і характар яго „інтэрнацыянальных" меркаванняў (аб чым далей піша А. Мальдзіс).

У лісце да Аляксандры Бергман ад 12 кастрычніка 1983 г. Ніна Палянская — удава па Б. Тарашкевічу піша, што ў палове 1935 г. Мінскі „Белгосиздат" пераслаў Б. Тарашкевічу 4 тысячы рублёў задатку за прыняты да друку пераклад „Іліяды" і падрыхтаванне карэктарскіх гранак.

Улічваючы бюракратычныя абумоўленасці таго часу, тое, што прыняты быў матэрыял выдавецтвам (якісь час пасля прыезду Тарашкевіча ў БССР), што зроблена была карэктура і тэкст быў зацверджаны да друку на працягу паўтара года прабывання аўтара перакладу ў Савецкім Саюзе, **сведчыць аб тым, што прывёз ён з сабою з Польшчы закончаны пераклад.** Праўда, Стэфан Бергман сцвярджае, што Ніна Аляксандраўна (удава па Тарашкевічу) у гутарцы з ім у 1955 г. успамінала, што Браніслаў падрыхтаваў у Маскве пераклад лацінскіх тэкстаў да публікацыі. Гэта магла быць аднак толькі апошняя „шліфоўка" працы, неабходная да друку згодна з патрабаваннямі „Белгосиздата". З ліста Ніны Аляксандраўны вынікае зрэшты тое, што Тарашкевіч, будучы ў Маскве, меў ужо намер перакласці „Іліяду". Сума вышэйпрыведзеных інфармацый сведчыць аб тым, што пераклад быў закончаны не пазней 1928 г., у цэласці прывезены Б. Тарашкевічам у Мінск, прыняты ў друк і набраны ў карэктарскія гранкі. Характар згаданых заўваг аб працы над „Іліядай" у зняволенні наводзіць на думку, што ў турэмных умовах Польшчы Б. Тарашкевіч безумоўна канчаў пераклад „Іліяды", але асноўная праца над творам Гамера адбылася раней — галоўным чынам у студэнцкія гады. Гэта аднак толькі гіпатэтычнае (хоць не без асновы) меркаванне для справы з'яўляецца другарадным пытаннем і не памяншае верагоднасці асноўнага факта: зроблены быў поўны пераклад і падрыхтаваны да друку.

* * *

III. Далейшы лёс перакладу застаецца ўсё яшчэ пытаннем, але існаванне яго несумненнае.

1. Улічваючы вышэйзгаданыя факты, лішнім было б даказваць беспадстаўнасць змешчанага ў „Полымі" (н-р 1 з 1982 г.) артыкула, з якога вынікае, што рукапіс перакладу „Іліяды" быццам бы згарэў у часе пажару ў Радашковічах.

2. Дзяржаўны камітэт Беларускай ССР па справах паліграфіі і кніжнага гандлю, у лісце ад 26 ліпеня 1985 г., другую жонку Тарашкевіча — Ніну — паведамляе: „Госкомиздат БССР сообщает, что в архивах АН БССР, КГБ, архиве-музее литературы и искусства БССР, а также у Веры Андреевны, бывшей жены Бронислава Тарашкевича по первому браку, рукопись «Илиады» Гомера в переводе Б. А. Тарашкевича не сохранилась". Гэтае аўтарытэтнае сцвярджэнне Дзяржкамвыда „не сохранилось", падпісанае другарадным чыноўнікам, мае чыста бюракратычны характар. Ураднік Дзяржкамвыда БССР не падае крыніцы сваёй інфармацыі, не піша напр. „не обнаружено", што магло б абазначаць беспаспяховасць пошукаў, калі яны праводзіліся. Не паясняе ён таксама, ці меў пацвярджэнне Веры Ніжанкоўскай (першай жонкі Б. Тарашкевіча), ці крыніцай для яго быў толькі артыкул у „Полымі" н-р 1 ад 1982 г.

3. Лішнім было б каментаваць згаданы ва ўступе гэтай публікацыі артыкул „Гамер" у Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (т. II ад 1985 г.), у якім згадваецца пераклад „Іліяды".

4. Не без значэння, у маім перакананні, з'яўляецца інфармацыя Аляксандры Бергман, якая ў лісце праф. Адаму Мальдзісу 4 чэрвеня 1982 г. між іншым напісала: „В 1957 г., когда Нина Александровна, вдова Бр. Тарашкевича, приехала в Минск и говорила по этому вопросу с Михаилом Татуром — тогдашним руководителем редакции „Мастацкая літаратура" (Тутака ідзе, відаць, пра Мікалая Татура, загадчыка рэдакцыі Дзяржаўнага выдавецтва БССР, выдавецтва „Полымя" — Я. Ж.) и он ее заверил, что знает, где надо искать и к кому надо обратиться" (у справе пошукаў перакладу „Іліяды" — Я.Ж.). Далей А. Бергман піша: „Однако, когда она вторично приехала в Минск, его там уже не было. Он тогда был в Москве долгое время, но ей об этом не сказали".

5. Дзіўным здаецца факт, што Саюз беларускіх пісьменнікаў у тым часе не зацікавіўся лёсам важнага для беларускай культуры перакладу паэмы Гамера і не ўдзяліў належнай увагі пошукам паасобных даследчыкаў. Уражваюць абыякавыя адносіны да літаратурнай спадчыны Б. Тарашкевіча да часу восьмага дзесяцігоддзя і сведчаць аб нявычарпаных магчымасцях пошукаў перакладу, а тым самым ствараюць надзею на яго існаванне дзесь у спецфондах архіваў, хутчэй за ўсё, КДБ.

* * *

Аўтар гэтага артыкула шчыра дзякуе спадарству Аляксандры і Стэфану Бергманам за азнаямленне з іх асабістай карэспандэнцыяй з удавою па Б. Тарашкевічу Нінай, прафесарам А. Мальдзісам і за дапамогу ў скамплектаванні неабходных біяграфічных матэрыялаў.

**Янка ЖАМОЙЦІН**

# Чорна-блакітная біяграфія

**Незайздросны лёс выпаў паэту Уладзіміру Гайдуку. У самоце, нястачах, знясільваючых сялянскіх абавязках.**

**— Што ж я? — кажа пра сябе паэт. — Каб пайшоў у горад, чалавекам быў бы.**

Тарнопаль, урочышча Полымя. Месца захутанае ў лясны краявід. Белая хата Уладзіміра Гайдука здалёк красуецца на фоне залаціста-зялёнага, восеньскага лесу. На коміне буслінае гняздо. Тут жа сустрэнеце безліч паэтычных рэквізітаў беларускай літаратуры: бярозкі, абымшэлыя стрэхі, сабака. Паэтычная манера Уладзіміра Гайдука далёкая аднак ад такіх эфектоўных сюжэтаў. Наадварот, заварожвае яна прастатой і лёгкасцю. Два зборнікі „Ракіта" і „Блакітны вырай" — жамчужыны народнай лірыкі. Пра Уладзіміра Гайдука гаварылі калісь — беларускі Ясенін. Сёння зноў загаварылі пра яго творчасць з нагоды юбілею, 55-годдзя з дня нараджэння.

Як жа жыве гэты беларускі, таленавіты паэт?

У час маёй апошняй сустрэчы з У. Гайдуком выпала зацьменне Сонца. Зоркі наводзілі мінорны настрой. Ужо чацвёрты раз я мела гонар сустрэцца з гэтым высакародным, таленавітым паэтам.

Уладзімір Гайдук — чалавек сціплы і просты. На штодзень, як большасць вяскоўцаў-беларусаў, ходзіць у гумоўцах, доіць кароў, гаворыць па-беларуску. На штодзень дыхае горкім паветрам запаведніка, самагубным і брутальным. Уладзіміру Гайдуку баліць душа, калі здзекуюцца са слабых людзей.

— Навошта называюць іх плебеямі, ці няўдачнікамі. Простыя людзі жывуць цяжкім жыццём. Але ў іх хутчэй знойдзеш спагаду ці дапамогу. Уладзімір Гайдук разумее сваіх суседзяў, аднавяскоўцаў, хаця яны і не чытаюць яго вершаў. У паэта няма цесных сувязяў з літаратурным асяроддзем. Сам Уладзімір Гайдук адчувае свае нястачы і недахоп адукацыі. Глыбокая ўражлівасць хутчэй мяшае ў штодзённым жыцці і міжчалавечых кантактах.

У Гайдука шэсць коцікаў, тры каровы, конь, сабака.

— Учора толькі выкапаў бульбу, — расказвае пра сваю гасападарку.

У гасцях сястра Ганна са Слупска. Кожны год прыязджае ў Полымя дапамагаць брату.

— На гаспадарцы самотны чалавек нічога не значыць, — кажа мой субяседнік.

А да таго гаспадарка ў яго традыцыйная, многа трэба рабіць рукамі. I зараз адняло руку. I што будзе, калі сястра паедзе.

— Добра, што вы прыехалі, — кажа Уладзімір Гайдук.

Паэт расказвае пра несумненную падзею ў яго жыцці — юбілей. Тады з'ехаліся сябры-„белавежцы", пазней навedala тэлебачанне.



— Але тады я вельмі хваляваўся перад камерай. Здзеравянеў і не мог сказаць слова.

Ці нешта змянілася, пытаю, у яго жыцці? Аказваецца, што не, усё асталося як было раней.

За сталом, пры бутэльцы *бэлта* і каве, разам з суседам Мішкам і сястрой спадара У. Гайдука гаворым пра цяжкія часы. Людзям найбольш дакучае самотнасць.

— Мая то ў Амерыцы, а Валодзіка ў санаторыі, — смяецца стары кавалер Мішка, каменціруючы іхнюю халасцяцкую долю.

Жыццё ў вёсцы без дзяцей, сямейных абавязкаў, кахання — кашмарнае. Працуеш і думаеш навошта ўсё гэта? Уладзімір Гайдук не кінуўся ў алкагалізм як многія старыя кавалеры. Не зламала яго пабыўка ў псіхушцы. Часам шкадуе, што не ўцёк у горад. У маладосці меў для гэтага нагоду.

— Пасля войска мог бы ў бяспецы працаваць. Але за мяккі быў. Маці, як даведалася, што хачу пакінуць гаспадарку, ірвала валасы з галавы. Упала тады на парог і загарадзіла мне дарогу ў свет.

Уладзімір жа шкадаваў матку, не пераступіў яе тады на парозе.

— Чаму вы пачалі пісаць вершы? — пытаюся ў паэта.

— Фазы такія находзілі! Калі з'яўлялася натхненне, не было выхаду як толькі пісаць. I так прыйшлося жыць падвойным жыццём. Жыццём, у якім думкі і праца рэдка зыходзіліся:

*Уцякаю сам ад сябе*
*На поле, хай бачаць усе,*
*Прытулюся да поту жыцця,*
*Плачу я*
*А смяецца душа.*

піша ў вершы „Бунт душы" паэт.

* * *

Зацьменае чырвонае Сонца нагадвала тоўсты рагаль.

Ах, юбілеі і фэсты — наша нацыянальная малая радасць! Іншыя народы цэняць сваіх паэтаў. Інакш жывуць жа паэты вялікіх народаў. А ў нас толькі чорна-блакітныя біяграфіі.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# З месца ірванула TV

14 кастрычніка г.г. дырэктар аддзела польскага тэлебачання ў Беластоку **Казімеж Пуцілоўскі** меў прэс-канферэнцыю, на якой знаёміў з прагрэсам пабудовы рэгіянальнага асяродка тэлебачання. На прэс-канферэнцыі К. Пуцілоўскі прадставіў свайго намесніка па тэхнічных пытаннях — **Багдана Віткоўскага**, а таксама паведаміў, што галоўным бухгалтарам усяго мерапрыемства з'яўляецца **Ізідор Гаінскі**.

Пра асобу тэлебухгалтара вядома толькі тое, што ён з Беластока. Усе фінансавыя падрабязнасці ажыццяўлення асяродка тэлебачання ў Беластоку — засакрэчаныя.

— Я не магу іх выяўляць — сказаў К. Пуцілоўскі, — без згоды і дазволу майго варшаўскага кіраўніцтва.

Багдан Віткоўскі (1941 г. нар.) — намеснік дырэктара беластоцкага тэлебачання па тэхнічных пытаннях — прыехаў з Варшавы. Ён сам лічыць, што стане беластачанінам прынамсі на некалькі гадоў. Па адукацыі — электронік (Варшаўская палітэхніка). Ад 1965 г. яго прафесійная кар'ера звязаная з кіраўнічымі пасадамі ў тэхнічных аддзяленнях варшаўскага тэлебачання.

Б. Віткоўскі лічыць, што з усіх прапанаваных сядзіб пад будучае тэлебачанне — самы лепшы будынак пры вул. Włókienniczej у Беластоку. Паводле ягонага аптымістычнага варыянту сядзіба пад асяродак (г.зв. skorupa) павінна быць гатова да канца 1997 г. У графіку на паасобныя месяцы гэта выглядае так: праект асяродка (люты-сакавік 1997), тэхнічны праект (палова 1997), конкурс на выканаўчае прадпрыемства (месяц-паўтары).

Б. Віткоўскі падтрымлівае думку, каб беластоцкі асяродак быў самым мадэрным у краіне, абсталяваным у найнавейшую тэхналогію з галіны апрацоўкі і перадачы вобразу.

**(ам)**

# Спявачкі з беларускага ліцэя

У Гайнаўскім беларускім ліцэі ўжо другі год існуе дзявочы вакальна-інструментальны калектыў, якім кіруе выпускніца Беларускага універсітэта культуры ў Менску **Бажэна Ляўчук**.

— Пачалі мы з другога месца на апошнім Фестывалі беларускай песні ў Беластоку, — кажа пані Бажэна, — як на дэб'ют, думаю, нядрэнна.

Цяпер у калектыве наступныя дзяўчаты: **Эва Акачук, Бэата Брэнька, Кася Дробат, Юстына Дудар, Кася Заброцкая, Ася Масайла, Эля Рослань.** На клавішах іграе **Гражына Валкавыцкая**. Найбольш удалым сваім выступленнем лічаць яны выезд у Гданьск на III Фестываль нацыянальных меншасцей. Спявалі там два разы: на Выспе Спіхшаў і на галоўнай вуліцы гданьскага старога горада — Доўгім Таргу.

— У час нашых канцэртаў публіка аўтэнтычна гуляла, — расказваюць дзяўчаты, — гэта вельмі файна, калі бачым, што нашы песні падабаюцца. Лягчэй спяваць.

Пасля канцэртаў запрасілі іх у Радыё Гданьск. У тамашняй студыі запісалі тры песні: „Верасы", „Тамарачка" і „О, матуля мая". Адну нават самі чулі па радыё. Кажуць, атрымалася „супер"!

Ездзілі яны яшчэ ў Варшаву, на падсумаванне алімпіяды беларускай мовы. А ў час нашай размовы збіраліся ў Пуньск — на сустрэчу нацыянальных меншасцей паўночна-ўсходняй Польшчы. Звычайна, упрыгожваюць усе школьныя ўрачыстасці. Спяваюць розныя песні, як самі кажуць, „трохі смутныя, трохі вясёлыя".

— Нашым сябрам, пэўна, падабаецца іншая музыка, — гаворыць Ася, — а тое, што мы спяваем, відаць, больш адпаведнае пакаленню нашых бацькоў...

— Ну што ты, — перабіваюць яе іншыя, — не можна так казаць, табе ж гэта таксама падабаецца, бо інакш ты не спявала б. Няма аднолькавых музычных густаў, аднаму падабаецца адно, другому — другое. Так як і ў кожным жанры музыкі можна знайсці нешта цікавае, добра пры гэтым гуляць.

Вызначыць музычны кірунак калектыву — цяжка нават самім спявачкам. У некаторых песнях адчуваюцца фальклорныя карані, хаця ў сучаснай апрацоўцы. Іншыя — чыста эстрадныя, яшчэ іншыя, гэта пераапрацоўкі вядомых забаўна-застольных гітаў (як перакладзеная з польскай мовы „Пакахала пекнага беларуса"). У падборцы рэпертуару дзяўчаты давяраюцца сваёй апякунцы.

Пані Бажэна Ляўчук закончыла эстраднае аддзяленне і ў такім напрамку хоча развіваць калектыў:

— Я не магу прывесці, як прыклад, ніводнага беларускага калектыву, да якога мы б хацелі раўняцца. Такога, як мне ўяўляецца, проста няма ў Беларусі. Апошнім часам прывезла я з Менска новыя песні, але мы іх яшчэ не развучвалі. Паглядзім, як яны атрымаюцца. Хачу падключыць акампанемент гармоніка, думаю пра новыя элементы. Як атрымаецца, пабачым. Наступным такім экзаменам будзе зноў агляд беларускай песні.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*



*„Пакахала пекнага беларуса" Ася Масайла.*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Яраслаў Кастыцэвіч

Нарадзіўся ў 1896 г. у сям'і настаяцеля праваслаўнага прыхода ў Пасынках. З 1907 г. Кастыцэвічы жылі ў Бельску. Яраслаў вучыўся ў гімназіях у Гродне і Белай-Падляшскай ды ў Петраградскім універсітэце. У час І сусветнай вайны быў афіцэрам расійскай арміі і ваяваў на Каўказскім фронце. Пасля вяртання дадому ў 1918 г. польскія ўлады не прынялі яго на працу. Толькі пасля ўваходу саветаў стаў працаваць у школе, але ў 1941 г. яго арыштавалі і пасадзілі ў турму. Вызвалены з астрога немцамі, Яраслаў Кастыцэвіч арганізаваў беларускае школьніцтва ў Бельскай гміне.

Пасля вайны Я. Кастыцэвіч доўгія гады быў дырэктарам Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя і пачатковай школы ў Бельску. Гэта сённяшнія ліцэй ім. Б. Тарашкевіча і „тройка".

За дваццаць гадоў свайго дырэктарства Я. Кастыцэвіч выхаваў цэлае пакаленне вучняў, для якіх быў узорам чалавека і грамадзяніна.

**Алег ЛАТЫШОНАК**



*Удзельнікі экскурсіі „Шляхам Кастыцэвічаў".*

На днях, 10—13 кастрычніка г.г., у Бельску-Падляшскім праходзілі чарговыя „Сустрэчы «Зоркі»". Удзельнікамі гэтага свята былі дзеці з бельскай „тройкі", а таксама юныя гісторыкі з Храбалоў. Дзяўчаты з Храбалоў разам са спадарыняй Ірэнай Матус збіралі прэсавы матэрыял пра сям'ю Кастыцэвічаў. Жанэта Роля, Андрэй Таранта і Міхась Сцепанюк заняліся апісаннем „Сустрэч". Іншыя дзеці размалявалі крыж. Разам з моладдзю працавалі старэйшыя сябры: Дарак Фіёнік, Валянціна Бабулевіч, Аліна Ваўранюк, мастак Алег Кабзар, Яраслаў Якімчук і ніжэйпадпісаная.

Наша мерапрыемства мы спалучылі з канферэнцыяй гісторыкаў. Разам з імі пабывалі на экскурсіі „Шляхам Кастыцэвіча", а таксама высвяцілі крыж, які пастаўлены быў каля дома, дзе жыў Яраслаў Кастыцэвіч. Нашы „Сустрэчы" здзейсніліся дзякуючы спонсарам: **Святлане і Аляксею Сычэўскім**, айцу **Георгію Такарэўскаму**, **Польскай фундацыі дзяцей і моладзі і Беларускага гістарычнага таварыства**. Усім ім вялікае дзіцячае ДЗЯКУЙ!

**Ганна КАНДРАЦЮК**



*Духоўную апеку спраўляў айцец Георгій Такарэўскі.*



*Душой нашых „Сустрэч" былі спадарыня Святлана Кастыцэвіч-Сычэўская і Дарафей Фіёнік.*

# V Сустрэчы „Зоркі" ў Бельску

*Фотарэпартаж Ганны КАНДРАЦЮК*



*Усе захапляліся працай Лукаша Шараноса.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 43

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Kasza | Spojrzenie / Ryba | | Czołg | Marek | | | | |
| Kret | | | | | Kaplan pogański | Oddział / Wiązka słomy | | Eros | Car |
| Ryza | | | | | | | | | |
| | | | | | Góra | | | | |
| Łubin / Park | | | | | Uderzenie | | | | |
| | | Kaktus | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 39:** вусы, бык, група, боб, рух, ванна, ар, бульбянішча, зубок, час, агарак, вага, пуза, спор, луг, бульба, бор, ваяк, ударнік, багнішча, адчай, кут, аса.

Узнагароды — каляровыя алоўкі — выйгралі **Андрэй Куптэль** з Гайнаўкі і **Кацярына Дуброўская** з Беластока. Віншуем!



Талон „Зоркі" № 43
27.10.1996



*Каляровы крыж у Бельску-Падляшскім. Разам з намі былі ўдзельнікі гістарычнай канферэнцыі, прысвечанай Яраславу Кастыцэвічу.*

# Славуты род Кастыцэвічаў

Бацька Яраслава Кастыцэвіча, дзед і прадзед былі святарамі. У гэтым годзе мінула 135 гадавіна з дня нараджэння Васіля Кастыцэвіча, бацькі Яраслава. Усе ведалі яго як святара царквы святога Іаана Хрысціцеля ў Пасынках. Нарадзіўся В. Кастыцэвіч у 1861 годзе ў Пасынках. Айцец Васіль быў таленавітым чалавекам. Ён — выпускнік філасафічна-гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта. Праўдападобна ў пачатку 1887 года быў ён рукапаложаны ў святарскі сан. У 1896 годзе быў назначаны інспектарам царкоўна-прыхадскіх школ. У 1906—1907 гадах кіраваў царкоўна-настаўніцкай школай у Трасцянцы. Пазней стаў настаяцелем сабора Святой Тройцы ў Бельску-Падляшскім. За сваю дзейнасць быў узнагароджаны нагрудным крыжам і Ордэнам Анны III ступені.



Бежанства Васіль Кастыцэвіч правёў у Кіеве як вайсковы духоўны. Вярнуўшыся з бежанства, стаў бельскім благачынным і настаяцелем Уваскрасенскага сабора, а пазней Прачысценскай царквы.

Жонка Васіля Кастыцэвіча, Зофія Будзіловіч, была дачкой святара. Мелі яны сямёра дзяцей. Двое памерлі малымі. З апошніх пяці трое асталося ў Польшчы, а двое вярнулася ў Расею.

Зофія Будзіловіч, маці Яраслава Кастыцэвіча, нарадзілася ў 1866 годзе. Памерла 9 жніўня 1925 года. Апошняе набажэнства айцец Васіль служыў у Кленіках. Пасля гэтага захварэў і памёр 9 снежня 1930 года на 69 годзе жыцця. Магілы бацькоў Яраслава Кастыцэвіча знаходзяцца на бельскім могільніку.

**Аня Сідарук**

*Гэты артыкул паўстаў на аснове інтэрв'ю **Ані Сідарук** (яе здымак публікуем побач), васьмікласніцы з Храбалоў са **Святланай Кастыцэвіч-Сычэўскай**, дачкой Яраслава Кастыцэвіча.*

# Было весела і трывожна

Крыж размалявалі мы ў гонар Яраслава Кастыцэвіча, заснавальніка беларускага ліцэя, шчырага патрыёта нашай падляшскай зямлі.

Разам са старэйшымі ўдзельнікамі „Сустрэч" былі вучні чацвёртых класаў. Разам з імі працавала настаўніца Аліна Ваўранюк.

Калі я пабачыла іконкі, якія намалявалі малодшыя сябры, мне стала зайздросна. Малодшыя за нас, а намалявалі прыгажэй і цікавей. Вельмі сімпатычна было ў час вогнішча. Мы кідалі на сябе лісце, спявалі песні. Было весела. Я шчаслівая, што апынулася сярод дзяцей, якія малявалі крыж і ўдзельнічалі ў V Сустрэчах „Зоркі".

**Жанэта Роля**

# ў гонар Яраслава Кастыцэвіча

## Мае „Сустрэчы"

Чацвер, 10 кастрычніка. У дзевяць гадзін мы сустрэліся з „Зоркай" і пайшлі на плябанію Уваскрэсенскай царквы, дзе прывітаў нас айцец Георгій Такарэўскі, настаяцель прыхода. Там мы сустрэліся таксама са спадарствам Святланай і Аляксеем Сычэўскімі і старэйшымі сябрамі: Дарафеем Фіёнікам, Алегам Кабзаром, Яраславам Якімчуком.

Пасля малітвы мы прыступілі да працы. Гэта не быў наш першы крыж. Ужо ў чэрвені г.г. мы размалявалі крыж ля нашай школы. Усе мы вельмі прыклаліся да справы. Маляванне крыжа праходзіла ў натхнёнай, радаснай атмасферы.

Нашы апекуны і спонсары — спадарыня Святлана і спадар Аляксей ды бацюшка запрасілі нас на салодкі пачастунак.

Мы, клас VI „е", памалявалі толькі адну старану крыжа. Другую малявалі малавядомыя сябры „Зоркі". Вечарам мы яшчэ раз сустрэліся ля вогнішча. Там былі печаныя каўбаскі, гульні, песні. Дарафей Фіёнік іграў на гармоніку. Дзяўчаты з „Жуlравінак" спявалі свае шлягеры. Мы, хлапчукі, кідалі ў вогнішча каштаны, якія голасна стралялі.

Усім гэтая сустрэча вельмі падабалася.

**Андрэй Таранта**



*Мастацкай часткай кіравалі Алег Кабзар і Яраслаў Якімчук.*



*Размалёўвалі крыж дзеці з бельскай „тройкі".*

# Белавежскі — трыццаць першы

**Трыццаць першы Белавежскі мастацкі пленэр адбыўся сёлета ў першай палове верасня, у Белавежы, вядома. Скромны быў гэты пленэр — і па колькасці ўдзельнікаў, і па колькасці і якасці прац. На вялікія амбітныя працы людзі сёння не настаўляюцца, бо трэба ж, каб такую працу нехта купіў. На абразок-мініяцюрку хутчэй знойдзецца купец. А што датычыць колькасці ўдзельнікаў пленэру — дык жа людзям трэба даць гасцініцу і харчаванне. А што тут „зробіш" за скромныя датацыі Ваяводскай управы і Беластоцкага радыёвяшчання! Хапіла ўсяго на восем асоб.**

Ды і так дзякуй Богу, што нешта дзеецца. Было ўжо з пленэрамі зусім кепска, бо ніхто не лічыў патрэбным дапамагчы мастакам. Некаторыя нават патрапілі смяяцца з нас, гаворыць камісар пленэру Ежы Ленгевіч. Казалі: „Папрывыкалі вы!"

Мо і мелі яны рацыю, бо штогадовыя пленэры (бывала нават — вясной і восенню) праходзілі па цэлым месяцы, а прысутнічала на іх больш трыццаці асоб. Бывала гучнае адкрыццё і закрыццё, а таксама салідныя вернісажы, дзе было не толькі што выпіць, але — у першую чаргу — што паглядзець. Было дастаткова весела, а весялей не стала, хаця мастакам не паменшала таленту. У Белавежу, як у Мекку мастацтва, з'язджаліся мастакі не толькі з усёй Польшчы, але і з-за граніцы — з найдалейшых нават закуткаў свету — як хаця б з экзатычнай Японіі, Швецыі, Грузіі, не гаворачы ўжо пра Беларусь, Літву ці Германію, Чэхію. Пабываць у Белавежы лічылі сваім абавязкам усе лепшыя польскія мастакі. Тут яны чэрпалі сваё натхненне, а пушча і праваслаўе былі крыніцай іх інспірацый.

Знайшліся людзі, якія дапамаглі пратрываць пленэру. Няма сітуацыі без выйсця, калі добра пахадзіць каля справы. Ежы Ленгевіч — у гэтым майстар! Некалькі гадоў таму назад грошы на пленэр даў Ваяводскі захавальнік гістарычных помнікаў. Пасля Юрэк пераканаў Януша Кохана, прэзаса фірмы „Awalo-Kośla", што найлепшая форма інвестыцыі — гэта спансараванне мастакоў, і наступныя тры гады пленэр адбываўся дзякуючы ўкладам гэтай фірмы. У мінулым годзе сыпнуў крыху граша Банк гаспадарчых ініцыятыў, а вось сёлета раскашэлілася Ваяводская ўправа і Радыё.

Пуставата і сумнавата сёння ў Белавежы. Разам з дырэктарам Дэркоўскім і Валяй Казімерчык-Швед агледзелі мы крыху незакончаных прац прыехаўшых у Белавежу мастакоў. Толькі двое з іх — не з Беластока: Янна Серка-Філіповіч з Варшавы і Тадэуш Цесюлевіч з Сопата. Усе іншыя — беластачане, амаль усе — нашы старыя знаёмыя, пра якіх мы мелі нагоду пісаць не раз.

Казімеж Дэркоўскі, галоўны ад культуры ў нашым ваяводстве, агледзеўшы працы-мініяцюркі, заўважае: „Прыйшоў да мяне калісь скульптар і кажа: нічога не хачу, памажыце мне толькі прадаць адну скульптуру, бо не маю на хлеб! Што зробіш..."

Але і з гэтых прац, якія паўсталі сёлета ў Белавежы, будзе зроблена выстаўка ў „Маршандзе" — кавярні-галерэі беластоцкіх мастакоў. Адкрыецца яна 15 лістапада. Праз нейкі час будзе дэманстравацца ў Белавежы, так прыхільнай мастакам. Трэба падкрэсліць, што спадарыня Зося Валкавыцкая, дырэктар гатэля „Іва", дзе спыняюцца мастакі, штогод дае ім скідку на пакоі ў гатэлі, што дазваляе ім у сённяшніх умовах неяк звязаць канец з канцом.

А што датычыцца гэтых умоў, дык, праўду кажучы, цяжка быць мастаком у эпоху самафінансавання, у часы паўперызацыі тых, хто разбіраецца ў мастацтве і хацеў бы купіць карціну, і бязмернага ўзбагачэння тых, для якіх прадмет мастацтва не мае ў яго жыцці ніякага значэння, хіба што мае ён наяўную вартасць. Але тады кожны малады мастак мусіў бы быць Рэмбрантам.

І таму аж дзіў мяне бярэ, што яшчэ дагэтуль мастакі, некаторыя з якіх, можна сказаць, выхаваліся на Белавежы, а яшчэ, як кажуць, пры камуне ўдалося ім выйсці на сусветны рынак, не склікнуцца і не збяруць між сабой нейкую сотню старых мільёнаў, каб дапамагчы маладым мастакам у іх мастацкіх амбіцыях, ды і каб Белавежскія пленэры не звяліся.

У капіталізме багатыя любяць кінуць нешта бедным, хаця б гэта і была кропля ў моры. Але тут і кроплі не відаць.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Беластоцкая мастачка Аліцыя Хароцей шмат разоў была ўдзельніцай белавежскіх пленэраў.*

# Удасканальванне настаўнікаў

10 кастрычніка г.г. дырэктар Комплексу ўстановаў удасканальвання настаўнікаў (Zespół Placówek Doskonalenia Nauczycieli) у Беластоку **д-р Ян Зенюк** склікаў прэс-канферэнцыю, на якой паінфармаваў пра дзейнасць узначальваемай ім установы. Нагодай для гэтага акта было асвоенне Комплексам новага месца, які цяпер знаходзіцца па вуліцы Злотэй, 4.

Напачатак дырэктар Зенюк пазнаёміў прысутных з тымі праблемамі, якія яго найбольш апошнім часам займалі, г.зн. з рамонтна-будаўнічымі справамі. Комплекс да нядаўна быў раскінуты па сямі пунктах горада, а новае месца было выдзелена толькі ў снежні мінулага года. На працягу дзевяці месяцаў удалося правесці ўсе неабходныя працы дзеля функцыянавання ўстановы; надоечы, 2 кастрычніка, адкрыта чытальную залу. Каб дабіцца гэтага, патрэбная была не толькі ахвярная праца персаналу, але і, у сённяшняе безграшоўе, кемлівасць дырэктара. Расказаўшы пра свае хітрасці, сп. Зенюк затым павёў гасцей па будынку, паказваючы ўсё і расказваючы. З асаблівым гонарам дырэктар прадставіў камп'ютэрную майстэрню, дзе створана 16 пунктаў індывідуальнай працы; ёсць і насценны экран на вадкіх крышталях. У інфарматычным фондзе — бібліятэка дыдактычных праграмаў. Кіраўніцтва ўстановы робіць захады, каб гэту майстэрню падключыць яшчэ да Інтэрнэту, а адзінай праблемай, якая запавольвае гэную справу, з'яўляецца адсутнасць методыкі карыстання Інтэрнэтам у школах. Аўдыторыя таксама насычана тэхнікай: грамафон, шпульны і касетны магнітафоны, відэамагнітафон, тэлевізар. Чытальная зала перароблена са спартыўнай: прасторная і светлая; можа тут працаваць 80 чалавек.

Вяртаемся ў дырэктарскі кабінет, дзе д-р Зенюк знаёміць з асноўнай дзейнасцю Комплексу. Галоўная задача, гэта дапамога настаўніку ў яго асабістым развіцці. Вывучаем, кажа дырэктар, патрэбы настаўнікаў і прапануем розныя формы парадаў і ўдасканальвання. Арганізуем семінары і кансультацыі ды розныя курсы. Апрача сваіх кадраў запрашаем да нас і спецыялістаў звонку; не толькі з Беластока, але і з Гданьска, Вроцлава, Кракава. Попыт на нашы прапановы расце, бо рынак працы ўваходзіць і ў школы і актывізуе настаўнікаў. Вылучаем некаторыя спецыфічныя групы настаўнікаў, напр. бібліятэкараў, дырэктараў, маладых настаўнікаў, і для гэтых груп арганізуем адмысловыя заняткі. У ваяводстве працуе 67 метадыстаў, а тут на месцы — 7 кансультантаў. Кансультанты м.інш. ацэньваюць прапанаваныя Міністэрствам нацыянальнай адукацыі падручнікі, а метадысты ў красавіку знаёмяць з тымі падручнікамі настаўнікаў.

У чытальню Комплексу падпісваецца 160 часопісаў, сярод якіх не ўдалося мне зглядзець „Нівы". Цікавасць „Ніваю" выказаў дырэктар Зенюк толькі вітаючыся са мною. Няма дзіву: калісь пра яго было амаль у кожным нумары нашага тыднёвіка. А сёння — прыйшлося яму самому выказаць ініцыятывай.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Цераз парог

Дакранаюся да галін,
якіх не бачу,
а колер бронзы,
а лес на каленях.
Дакранаюся да каранёў,
да якіх не дастану,
а бронза паблякла,
а лес маўчыць.
Дакранаюся да лісцяў
за ціншу плячэй,
а красак няма,
а лес стогне.
Дакранаюся да імглы,
нічога не бачу.

### Дысананс

Занавесіў акно,
а дзверы адчынены,
шукаю цішы,
а побач вуліца,
збіраю з вакон
дажджавыя кроплі,
а кватэра затоплена —
лопнуў водаправод.
А вераб'і, як цвыркалі,
так і цвыркаюць.

### Перад лясной споведдзю

Між дубам і папараццю
прастора ў жмені,
ля каменя змерыў пульс
пушчы,
а пад нагамі ўзгорак
ад птушыных гнёздаў.
Між дубам і каменем
простор густы ад слоў.
Гавораць,
а я маўчу,
утуліўшы твар у стагоддзі.
Між каменем і папараццю
ёсць месца на споведзь.
Чакаю,
а спавядальнік круціць.

### Падслухоўванне

Узгорак. Дубы і сосны
ў сонечным спляценні.
Плыве жывая, радасная нота.
І на каленях птушка,
святло бруіцца ў новыя
карціны.
Як лёгка з небам у жмені.

### Блакіт

Колькі ў блакіце адценняў неба,
ведае толькі сонца і, відаць,
мастак, што смела кідае
святло ў прастору.
А возьмем птушкі —
як расцягаюць світанак,
зерне за зернем.
А я нялётны,
у блакітным капелюшы
на галаве.

### Калі знойдзеш

Калі знойдзеш
вяковы дуб,
імглою ахіні
яшчэ толькі год,
а ўказальнікі скіруй
на глухія сцежкі
і абвяшчай:
— Драпежны звер
стаіць у засадзе.

# Аскетызм, вiдзежы, самотнасць

„Па волі Божай я ўжо некалькі гадоў знаходжуся на Святой Гары Афон (...) Нечакана, на пачатку 1994 года, без аніякіх намёкаў з майго боку старац сказаў мне, ці я не ўзяўся б пісаць артыкулы духоўнага зместу. Словы старца я прыняў як выяўленне волі Госпада нашага Ісуса Хрыста і па яго благаслаўленні прыступіў да выканання даручанага паслушэнства” — гэтак піша ва ўводным слове да кнігі *Манахі Афонскай Гары аб праваслаўнай духовасці** іераманах Гаўрыіл (Кранчук), ейны аўтар. Сама ж кніга выйшла ў перакладзе на беларускую мову ў кастрычніку гэтага года як выданне суполкі „Братчык”.

Складаюцца на кнігу дзве часткі: публіцыстычна-багаслоўская і ілюстратыўная. У гэтай другой праводзіцца агляд дваццаці галоўных манастыроў, якімі ў актуальны час *заселеная* Гара Афон — незалежная манаская рэспубліка Грэчаскай Дзяржавы. Першая частка — гэта зборнік артыкулаў (пераважна інтэрв'ю) напісаных аўтарам у выніку размоў з афонскімі манахамі і, зразумела, у выніку асабістага досведу аўтара. Акрамя зараду праваслаўнай навукі прадстаўляецца ў кнізе і багаты пазнавальны матэрыял з галіны манаскага жыцця ў наш час ды погляды праваслаўнага манаства наконт такіх грамадска-маральных пытанняў як аборт, еўтаназія, перасадка сэрца, экалогія, наркотыкі, ці роля тэлебачання ў сучасным свеце. Каб заахвоціць да прачытання гэтай кнігі, я запынюся тут толькі на апошнім з пералічаных пытанняў. Епіскап Хрысастом са Святой Гары Афон кажа, што тэлевізар гумарыстычна (але і трапна) ахарактарызаваны ў прароцтве св. Кузьмы Этоласа (XVIII ст.): „Прыйдзе час, калі ў кватэры ўварвуцца чэрці ў выглядзе невялікай каробкі, а іх рогі будуць тырчэць на даху”. Калі прааналізаваць усе за і супраць тэлебачання, сцвярджае епіскап, дык у сапраўднасці тэлебачанне прыносіць больш адмоўнага. Адыгрывае яно (тэлебачанне) самую вялікую ролю ў фармаванні свядомасці сучаснага чалавека, але сродкі, якімі гэтага дабіваецца, не ўспрымальныя з пункту гледжання хрысціянскай маралі і духоўнасці. Тэлебачанне ж і галоўны прапаведнік г.зв. „свабоднага стылю жыцця” — ці не найважнейшага інструменту ў руках усякай масці сектантаў. Беручы пад увагу набожныя памкненні праваслаўных вернікаў, сцвярджае епіскап, магчымыя два выхады: „пазбыцца тэлевізара, каб і след яго «рогаў» прастыў” або глядзець перадачы разумна, селектыўна.

Уся кніга, якое пытанне не ўзважалася б, насычана цытатамі са Святога Пісання, спасылкамі на жыцці святых, іхнія вiдзежы і прароцтвы, пакуты і аскетызм. Прабіваецца аднак у агульным уражанні ад прачытання кнігі і сумная нота. Праваслаўнае манаства, як святло і апірышча сваёй Царквы, самотнае ў сваёй місіі. Навакольны свет, усё ж, наскрозь прасякнуты згаданым ужо раней „свабодным стылем жыцця”, якому паддаюцца і самі свяшчэннікі. Адзін з манахаў сцвярджае: калі б на свеце былі ўмелыя і чуллівыя спавядальнікі, дык у гэтым жа свеце не патрабаваліся б псіхіятры.

У кнізе *Манахі Афонскай Гары аб праваслаўнай духовасці* вы знойдзеце шмат-шмат меркаванняў і на іншыя тэмы — хаця б, практычную параду, як весці сябе ў сутыкненні з іегавістамі, але... прачытайце самі.

**Аляксандр Максімюк**

* *Манахі Афонскай Гары аб праваслаўнай духовасці*, Гайнаўка 1996, сс. 166

# W Polsce trzeba mówić po polsku

9 верасня пазваніў я Алегу Латышонку. Размова прадаўжалася недзе 5 хвілін, калі раптам у трубцы нешта затрашчала і зараз нейкі жаночы голас, быццам бы з іншага свету, запішчаў: „halo, halo...”. Мінула яшчэ пару секундаў і зусім выразна нейкі асобень прашыпеў у трубку: „W Polsce proszę mówić po polsku”. Гутарку трэба было спыніць; не надта прыемна весці размову, калі нават электронныя хвалі нясуць смурод шавіністычнай гангрэны. Прынцыпова ўжо, калі толькі тэлефонная размова вядзецца на беларускай мове, пасля пару хвілін пачынае нешта трашчаць, шыпець, знікае голас. Спачатку думалася мне, што можа тэхніка, прыдуманая нейкім „sarmackim” інтэлектам, неяк дзіўна рэагуе на гук беларускага слова, але, відаць, пастаянны слухач маіх размоў ці то не разумее нашай мовы, ці на працу прыходзіць п'яны, ці, можа, ён проста нейкі антыбеларускі псіхапат, бо штораз больш нервова абслугоўвае тэхніку, якую яму даверылі.

Часта ў Беластоку, калі нехта на вуліцы ці ў аўтобусе гаворыць на беларускай мове, мясцовыя „еўрапейцы” звяртаюць увагу, што „tu jest Polska”. Але нават тады, калі таварыш Здзіх Куроўскі змагаўся тут за польскасць беластоцкіх крэсаў, ніхто не перарываў прыватных тэлефонных размоў і нахабна не прыпамінаў, у якой мы жывем рэчаіснасці. Здараецца таксама, што нейкі асобень званіць у нашу рэдакцыю і пачынае расказваць, што неўзабаве будзе ён рабіць з „кацапамі”. Хочацца тады запытаць: дзе і ад каго мог ён навучыцца іншага ўспрымання свету і людзей іншай нацыянальнасці, культуры ці веравызнання?

**Яўген Мірановіч**

# „Сасновы бор”

Калі не памыляюся, новая кніжка а. Рыгора Сасны, якую на днях атрымаў чытач, з'яўляецца ягонай трынаццатай кніжнай публікацыяй. Здабытак гэта велічэзны, так па ліку, як і па сваёй вартасці. А перш за ўсё па гэтым апошнім. Я не ўяўляю сабе сёння даследча-публіцыстычнага дзеяння без гэтых своеасаблівых паказальнікаў рыбалаўскага настаяцеля. Айцец Рыгор выканаў (і надалей выконвае) аграмадную працу!

Новая кніжка а. Рыгора Сасны — гэта трэці дадатак да „Уступнай бібліяграфіі ўсходняга хрысціянства. Польскамоўных друкаў сучаснага перыяду”*. У ім аўтар называе публікацыі, якія былі апублікаваны ў перыядычнай прэсе, выдаванай асяроддзямі праваслаўнай моладзі Польшчы. Улічваюцца тут: „List Informacyjny” (1984), „Biuletyn Informacyjny” (1987), „List Informacyjny” (1988—1995), „Wiadomości Bractwa” (1994—1995). Аб усіх гэтых перыёдыках бліжэйшыя інфармацыі дае Яраслаў Харкевіч у прадмове (на польскай, англійскай і беларускай мовах) да бібліяграфіі.

Публікацыі называюцца ў раздзелах, прысвечаных паасобным часопісам. Кожную такую частку бібліяграфіі папярэджвае факсіміле тытульнай старонкі часопіса. Дзе-ніне сустракаем таксама факсіміле некаторых матэрыялаў, апублікаваных у той жа перыёдыцы.Разам называюцца 1278 публікацый. Пры тых загалоўках, якія не раскрываюць зместу артыкулаў, даюцца паясняльныя паметкі. Перад пералікам публікацый аўтар падае спісак умоўных скарачэнняў, прыменены у бібліяграфіі, а на заканчэнне — паказальнікі: імянны і геаграфічны. Інтэгральнай часткай гэтага выдання з'яўляецца таксама нарыс Славаміра Назарука „Выдавецкі здабытак Брацтва праваслаўнай моладзі” (тэкст на польскай мове).

Бібліяграфія выдадзена элегантна. Шкада толькі, што час ад часу можна ў ёй прыкмеціць друкарскія літарныя памылкі. Чытача, які будзе чытаць факсіміле артыкула Серафіма Корчака-Міхалеўскага, змешчанага на другой бачыны вокладак, папярэджваю адразу, што другі фрагмент знойдзе ён на трэцяй бачынцы. А наогул, такі падзел дэзарыентуе!

Сваю трынаццатую працу аўтар дэдыкаваў „Ali i Alikowi oraz Ich Rodzinom”. Яе выданне спансаравала Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы. Надрукаваў „Orthdruk”.

І ўжо зусім на палях гэтай рэцэнзіі. Адзін з маіх знаёмых, калі ўбачыў на адной з паліцаў маёй дамашняй бібліятэкі даволі доўгі ўжо радок кніжак а. Рыгора Сасны, пракаментаваў коратка: „У цябе ўжо сапраўдны „Сасновы бор!” Фактычна. А яшчэ дабаўлю — гэта магутны, здаровы „Сасновы бор”.

**Пётр Байко**

*ks. Grzegorz Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego, Druki polskojęzyczne okresu współczesnego*, Suplement III. Ryboły 1996, ss. 96

# Радзіма — Родзіна

**Частка LX**

Прадаўжаю спасылацца на выказванні знакамітага эміграцыйнага даследчыка і літаратурнага крытыка Антона Адамовіча, які адыграў значную ролю ў развіцці беларускай эміграцыі на Захадзе:

„Сітуацыя беларускай эміграцыі на Захадзе была і ў нейкай ступені ёсць цяжкай. І гэта не толькі таму, што мы, на Захадзе, паявіліся без якой-небудзь маёмасці, што не ведалі мовы і былі без прыдатных на Захадзе прафесій. Бадай ці не галоўнай прычынай нашых цяжкасцей была пастава і адносіны да нас Савецкага Саюза. Савецкі Саюз зрабіў усё, каб нас максімальна апляваць, каб прадстаўляць нас як паслугачоў Гітлера і агентаў „амэрыканскага імпэрыялізму”, як здраднікаў і шпіёнаў. Зразумела, што такія інтэнсіўныя дзеянні Савецкага Саюза мелі на мэце толькі адно: кампраметаваць як людзей, ізаляваць, скіраваць супраць нас грамадствы, у якіх мы пачалі пасля вайны жыць. Аднак савецкая палітыка закончылася правалам. Па сутнасці беларусы незалежна ад таго, куды кінуў іх лёс,ураслі ў новыя грамадствы і настроілі іх да сябе прыязна і добразычліва. Дабіліся гэтага дзякуючы сваёй працавітасці, добрасумленнасці, лаяльнасці да тых дзяржаў, у якіх яны апынуліся. Зразумела, што ўсе мы добра ведаем пра тое зло, якое нам рабіла і робіць Савецкая Беларусь. Мы ведаем, што беларускія камуністы хацелі б, каб мы знаходзіліся ў максімальным канфлікце з тымі дзяржавамі, дзе жывем. Робяць гэта з той мэтай, каб гэтыя дзяржавы нас выдварылі або каб мы самі пакінулі гэты краіны і пераехалі ў БССР. А там, дык нас перабралі б, як сляпых кацянят і знайшлі б для нас месца ў сваіх гулагах. Цяпер саветы, як гэта было і ў першыя дні пасля вайны, інтэнсіўна шукаюць сярод нас тых, хто хаця крыху верыць у іх прапаганду. Такія людзі ім патрэбныя, бо могуць стацца іх эмісарамі ў змаганні за вяртанне на радзіму. І таму я вам скажу тое, што гавару ўсім беларусам з савецкага лагеру. Ведайце, што сярод размоўцаў з вамі, калі вы вернецеся назад, будзе многа тых людзей, якія звязаны з савецкімі органамі. Іх не будуць цікавіць тыя эмігранты, якія адносяцца да саветаў варожа, а толькі тыя, хто схільны паверыць у райскае жыццё ў СССР. Калі толькі такіх людзей знойдуць, дык зробяць усё, каб іх духоўна зняволіць і поўнасцю сабе падпарадкаваць. І таму ў размовах нельга ў ніякім выпадку гаварыць не толькі аб эмігрантах, сімпатыках савецкай сістэмы, але і аб нейтральных, хіба што толькі аб такіх, што старыя і стаяць над магілай і ніякай карысці ўжо саветам не прынясуць.

А ўвогуле, дык трэба ведаць, што ўся гэта метадалогія была саветамі адпрацавана ўжо ў трыццатыя гады ў лагерах. Там яны выпукоўвалі вельмі лёгка сваіх сімпатыкаў і на іх абапіралі ўсю сістэму даносаў і праследаванняў.

Я, зразумела, веру ва ўпадак камунізму. Аднак працэс гэты будзе складаны і балючы. Саветы здолелі залезці ў чалавечыя душы ды іх зняволіць. Вось у гэтым заключаецца галоўная бяда беларускага падсавецкага грамадства. Вызваленне беларускіх душаў ад гэтага зняволення вельмі будзе складаным і балючым. Аднак няма сумненняў, што беларускі народ у канцы канцоў пацягнецца да свабоды. Быць можа, што зробіць ён гэта пазней чым іншыя зняволеныя народы, але ж паўстрымаць няўхільных працэсаў нельга і беларусы мусяць стацца вольнымі людзьмі і заняць пачэснае месца між народамі.

І беларуская эміграцыя што магла, тое рабіла і робіць у гэтым напрамку. Думаю, што найважнейшае, каб паднявoленым людзям, у тым ліку і беларусам, паказаць вольны Захад. Справа ў тым, каб людзі вызваліліся з маны і перасталі верыць, што на Захадзе людзі жывуць у нястачах, у бядзе, пад прыгнётам страшэнных капіталістаў ды імперыялістаў. Непасрэдны кантакт з Захадам разаб'е фальшывую камуністычную міфалогію і з чалавечых сэрцаў ды думак спадуць аковы. Вы ведаеце, аб гэтым гаварыў Д. Дынглі, што ў Ангельшчыну прыехала адна выкладчыца з Савецкай Беларусі, дык яна прывезла з сабою паўмяшка лякарстваў. Калі яе спыталі чаму, дык яна адказала, што савецкія лекары найлепшыя ў свеце, а капіталістычныя ўсе шкодныя і толькі паглыбляюць хваробу ды вядуць да заўчаснай смерці. Вось гэта і ёсць камуністычная міфалогія. Падумайце, амерыканскія лекары атрымалі большасць Нобелеўскіх прэмій у галіне медыцыны, а саветы дабўць у галовы людзям, што савецкая медыцына найлепшая на свеце. Вось бачыце, галоўныя нашы ворагі — мана і фальш, з якімі трэба будзе змагацца вельмі доўга. Аднак веру, што і беларусы пацягнуцца да праўды, а праўда абазначае вызваленне”. **Алесь Барскі**

# Дай Божа, вылечыць

**Трэба паверыць. Мушу верыць сваім вачам. Вось з мае левае нагі ўвачвідкі сыходзіць пухліна. Дзесяцігадовай дзяўчынцы ў час паўгадзіннага сеанса знікаюць нарасці. Барадаты малады мужчына, якому ўступаю чаргу, перад уваходам да лекара з цяжкасцю гаворыць, словы і сказы прадзіраюцца праз горла, быццам затканае анучай, — выходзіць праз гадзіну як адменены, і голас у яго звонкі і чысты. Чакае яго сеанс яшчэ заўтра.**

Маладая жанчына, якую я бачыла яшчэ ўчора, убягае

**з жахам у вачах**

і слязамі: учора з кірліянаўскага здымка яе рукі і полароіда *аўры* энергатэрапеўт адчытаў, што хтосьці ў яе сям'і вельмі цяжка хворы. Усе ж былі здаровыя! Няпоўную гадзіну перад здымкам яе брата забрала скорая дапамога на рэанімацыю. Адкуль ён даведаўся?! У прыгожай дзяўчыны са сполахам у вачах на здымку аўры над галавой і над правым плячуком — чорная пляма. Тлумачыць мне яе сітуацыю Юзаф Паплаўскі: гвалт, спроба самагубства, працяглая дэпрэсія, поўная закамплексаванасць у адносінах з мужчынамі. Ева В. з Беластока была ўжо ў біяэнергатэрапеўта з Л. — быццам бы дапамог свякрусе і ёй самой, але дзяцей давёў да страшнага стану, хіба ўсе хваробы і лякі перайшлі на дачушак: адна з віскам уцякае ад мужчын, старэйшых за бацьку, другая мае скуру вечна абдзертую да крыві, дзеці кідаюцца ўначы, крычаць ад жаху. Юзаф Паплаўскі, які ёсць у атэстацыйнай камісіі, якая правярае лекараў-аздараўцеляў, падасць у камісію яго прозвішча, паколькі ягоная дзейнасць прыносіць шкоду, а біяэнергатэрапія павінна перш за ўсё

**не шкодзіць.**

Маці дзяўчатак трэба таксама заняцца. У яе відавочны простым вокам неўроз. Пасля сеанса ночку дзяўчаткі першы раз ад доўгага часу спакойна засынаюць і спяць усю ноч. Жанчына сярэдняга ўзросту, хворая фізічна і маральна ад страшнай сямейнай сітуацыі, на другі дзень прыходзіць на сеансы аж чатыры разы. Чарга цярпліва чакае. Хто маўчыць, хто расказвае пра сваю дарогу да самапазнання, як пані Тэрэса з Беластока. Метад самакантролю розуму па Хасэ Сільву выцягнуў яе з дзесяцігадовай дэпрэсіі і даў магчымасць сустрэць людзей „думаючых пазітыўна", паставіў на ногі маральна і нават... матэрыяльна, бо пачало ўсё ёй спрыяць, нават у фінансах! Прыходзяць людзі з медыцынскім дыягназам, што ў іх ёсць „гуз", выходзяць

**поўныя веры**

што рак прапаў. Што цікава, „дахтары падаюць", не разумеючы, што здарылася, бо новы дыягназ пацвярджае выздараўленне. Пасля ўмяшання біяэнергатэрапеўта рака няма, быццам яго і ніколі не было. Адкуль такая моц?

**Няма тут ніякіх „чараў".**

Юзаф Равіч-Паплаўскі з Кракава прывёз у Беласток кнігі і апаратуру, фатаграфуючую *аўру*. Аўра гэта ўзор энергетычнай вібрацыі асобы. Энергію тую называецца часта „біяплазмай", „біяэнергіяй". Тэхніка паказвае тое, чаго не ўбачыць простае вока. Апарат „Aura Camera 6000" мае сенсары, якія мераюць электрамагнітнае поле (вібрацыі). Тыя вібрацыі перадаюцца ў цэнтральную частку апарата, дзе з дапамогай электронных сістэм пераўтвараюцца ў колеры, аўтаматычна рэгістраваныя на здымку Polaroid Color. Біяэнергатэрапеўт той колер можа бачыць і без апаратуры. Тыя колеры інтэрпрэтуюцца чалавеку, зацікаўленаму ўзроўнем свайго духоўнага жыцця, добрымі і адмоўнымі рысамі індывідуальнасці, талентамі, магчымасцямі, сваім псіхічным і фізічным станам. Сучасная тэхніка тлумачыць штосьці, што некаторым здаецца цудам. „Няма ніякіх «таемных ведаў», абапертых на чарах, а існуюць веды, не пазнаныя або **забытыя** чалавекам!" — сцвярджаюць члены Навукова-даследчага асяродка Agnihotra ў Кракаве.

Праўда, часта падсмейваемся з таго, што цяжка змерыць „шкельцам і вокам". Але каб ведаць, трэба ісці дарогай праверкі, вопыту і скрупулёзнай верыфікацыі вынікаў.

**Здароўе — гэта**

больш стан розуму, чым фізічная кандыцыя цела, — кажа Юзаф Паплаўскі, — цела, якім так займаемся, аддаючы яго ў рукі спецыялістаў па медыцыне і апаратуры. Здароўе — гэта перш за ўсё натура нашай душы.

Што можа вылечыць жывую душу? Натуральная тэрапія. Псіхічна-духовая інтэграцыя, працэс, які вяртае гармонію і раўнавагу ў чалавечым энергетычным полі і даводзіць да еднасці чалавека, яго паўнаты. Юзаф Паплаўскі, па прафесіі архітэктар, цяпер студэнт II курса Міжнароднае астраакадэміі, не дамы праектуе, а хоча збудаваць чалавека, паправіць яго пахіснутую структуру — збудаваць яго гарманічным, у еднасці з Усявышнім і натурай. Сам удасканальвае сябе, і

**Бог даў**

яму магчымасць ужо з натуры, а таксама з ведаў і самаўдасканалення, лячыць людзей. Візуалізуе ўнутраныя органы, значыць, бачыць нябачнае простым вокам, мае моц у пальцах умешвацца ў арганізм і нішчыць хваробу.

— У Акадэміі вядзе заняткі Валянціна з Масквы, якой аўра мае белы колер. Мае яна моц лячэння нават на адлегласць. У зале больш за сто сорак студэнтаў. Назвала яна мяне, і кажа: „Вы лечыце". „Ну, як усе тут" — адказваю, а яна з націскам паўтарае: „Вы лечыце". Стаў я яе асістэнтам. Меў ініцыяцыю ў веды як першы ў Еўропе. Гэта для мяне вялікі гонар.

„Экстрасенс", як яго называць м. інш. у Беларусі, для нас гучыць часам трохі смешна. Ходзіць ды махае рукамі, быццам лечыць, але ж хваробу не заўсёды відна простым вокам. Таму большасць глядзіць на біяэнергатэрапеўтаў

**як на дзівакоў або ашуканцаў.**

Быццам бы лекары. Маюць нават на гэта „паперы". Лекары душы. У сапраўднасці яны лекары і сваёй душы. Уваход на такую дарогу патрабуе ўмеласці адкінуць непатрэбнае, малаважнае. „Не думайце пра грошы" (каб заплаціць яму) — кажа Ю. Паплаўскі. Не лічыць часу, які прысвячае кожнай асобе. „Я ад учора не еў", — кажа, і з невялікім апетытам, не гледзячы, што яму прынесла жонка, паглынае бутэрброд. „Ну, лячы, лячы" — кажа Іаланта Паплаўская, — „то цябе самога зараз возьмуць на рэанімацыю".

Вядома, было б больш цікава і сумленна, каб

**і я паддалася**

тэрапіі. Са здымкаў аўры і кірліянаўскага энергіі з мае далоні спадар Юзаф адчытвае маю псіхіку і нават складаны характар майго сябра, мае адносіны да сексу, бачыць маё дзяцінства і ўплыў на маю індывідуальнасць маёй каханай бабулі Любы, чалавека неверагодна добрага і пачцівага. Здымак аўры сведчыць, што энергія і індывідуальнасць поўнасцю сходныя, што нячаста бывае. Мой „арэол" — залаты, аранжавы, крыху на ім сакавітай зелені. На здымку далоні, дзе з пальцаў выпраменьваюцца блакітныя кругі і залатыя згусткі, доктар заўважае ўражлівасць падстраўнікавай залозы (trzustki) і недамыканне клапана левага перадсэрдзя. А ад чаго мяне лячыць? Сочыць за працэсам маладая пані доктар з Беластока. Спачатку малітва, у якой лекар дзякуе Усявышняму за моц, якую яму Ён даў, просіць даравання за тое, што ён, недасканалы чалавек, бярэцца за такую адказную і Богам даручаную справу і благае, каб ягоныя дзеянні не прынеслі шкоду, а толькі карысць. Пасля ачышчае мяне энергетычна. З-пад прыплюшчаных павек назіраю за яго рухамі. А пасля „канкрэтна" — трэба мне зменшыць страўнік, прачысціць шляхі падстраўнікавай залозы. Надаць майму целу кшталт адпаведны. Ствараецца „фантом" — ментальны вобраз формы, якую мае мець мой дасканалы арганізм — і мае доўгія ногі, цяпер пульхныя, і пругкі жывоцік. Мяне цяжка пераканаць, тым больш што-колечы ўнушыць. Але я выразна, да болю ўсё адчуваю — як курчыцца мой страўнік, як чыесьці пальцы ў масажы казычуць маю падстраўнікавую залозу, адчуваю гарачыню ў ступаках. Вось мае суставы перасталі трашчаць! Не, мой слых не можа мяне змыліць! І зрок таксама: няма ўжо ў мяне апухлай костачкі!

„Ну, па мне будзе найбольш хіба бачны вынік дзейнасці пана Юзафа Паплаўскага" — кажу лекарцы. Настрой у мяне таксама выдатны. Вяртаюся да старых кніг, апетыт маю толькі на яблычкі. Калі хто хоча праверыць, прыходзьце ў рэдакцыю. Каму трэба, дам адрас пана Паплаўскага і яго навукова-даследчага цэнтра. Бо смяюцца толькі здаровыя, а калі бяда...

**Міра Лукша**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі, мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Яшчэ цяжэй было прывыкаць да новага жыцця нашай, яшчэ царскай, інтэлігенцыі. Свет яе проста заваліўся. Яны страцілі не толькі свае ідэалы, маёмасць, але і працу, бо ў Польшчы ім працы проста не давалі. Таму вымушаны былі вяртацца ў свае вёскі, дзе ім таксама пераважна ўжо месца не было, і зноў прывыкаць да цяжкай мужыцкай працы і долі. Так ужо і дажывалі яны сваё паламанае жыццё.

Я яшчэ помню многіх такіх інтэлігентаў. Яны многа карысней выглядалі ад іншых сялян: больш дбалі пра свой выгляд, былі больш культурныя, гладка і займальна ўмелі гаварыць, і ў асноўным па-руску або з рускім ухілам. Мелі дома розныя кнігі і шанавалі іх.

А вось сельскія работы яны не заўсёды выконвалі так, як было прынята ў вёсцы. Відаць, праца селяніна не была іх моцным бокам, і мілым заняткам. Усе іх хібы хутка і прафесіянальна вылаўлівалі і крытыкавалі мужыкі.

У час касавіцы, напрыклад, адны з іх, каб не пакалоць сваіх далікатных босых панскіх ног, растрасаючы накошаны пакос, ступалі нагамі па гэтым пакосе, а другія — ступалі па ўжо растрэсенай да сушэння траве. І менавіта гэта смяшыла мужыкоў, бо рабілася, паводле іх, не па-гаспадарску. Калі я, будучы яшчэ малышом, па сваёй дзіцячай наіўнасці дапытваўся, каторыя ж з іх рабілі правільна, а каторыя — не, мужыкі яшчэ больш рагаталі. Аказваецца, адны і другія рабілі няправільна, бо як травы, так і сена таптаць нагамі нельга.

Каб добра і хутка сохла трава, трэба далікатна і раўнамерна растрэсці яе і часта варочаць. Яна павінна проста на паветры ляжаць. Трава на граблях сохне — паўтаралі. Ступаць жа нагамі трэба толькі па голай пожні...

Неласкавы быў цяпер лёс і для нашых палкоўнікаў-аднавяскоўцаў.

Парфенцій Амельянюк, напрыклад, праз праклятую ім рэвалюцыю, страціў нажыты і паложаны ў банку капітал, страціў цёпленькую пасаду, страціў іншую маёмасць і належныя палкоўніку і двараніну „пачесці". І гэтага мала, трэба было хуценька здымаць з сябе раскошны палкоўніцкі мундзірчык і хуценька рабіць драла з дзяржавы „где так вольно дышит человек".

Вяртацца ў родную вёску і жыць там селянінам ён ужо не надаваўся, а і не было яму ўжо месца там, бо на бацькаўскай гаспадарцы жыў брат Аляксандр з сям'ёй. Страціўшы пасаду ў горадзе з'ехаў дадому і брат Васіль з сям'ёй.

Вярнуўся наш дзядзька з Савецкай Расіі ў свой горад Вільню і зноў стаў жыць у сваім уласным доме, купленым ім яшчэ ў добры царскі час. У Вільні не было тады ўжо немцаў і саветаў, але не было ўжо і Расіі, а Польшча.

Каб нейк пражыць у той цяжкі час, не маючы работы, прадаваў спачатку залатыя рэчы і ўзнагароды, якія ўдалося зберагчы ў час рэвалюцыі, а потым выклапатаў афіцэрскую пенсію ад польскай дзяржавы. Для гэтага трэба было прадставіць двух сведкаў-палякаў, якія б пасведчылі, што ў часы царскай Расіі ён не ставіўся варожа да палякаў. Сведкаў такіх прадзедка знайшоў, хаця не адразу. Калі звярнуўся з гэтай просьбай да найбліжэйшага сябра-паляка, з якім доўгі час разам служылі, гасцявалі адзін у аднаго і якому ўвесь час дапамагаў разбірацца ў складанасцях рускай мовы, той адмовіўся. Ён сказаў, што ведае Парфенція толькі як добрага царскага чыноўніка, а як ён ставіўся да палякаў, ён не ведае. Знайшліся аднак іншыя паны-афіцэры, якія вельмі ахвотна пасведчылі, што мой прадзедка шавіністам не быў і вельмі ахвотна сябраваў з палякамі і дапамагаў ім. І пенсію прадзедка атрымаў. Праўда, не палкоўніцкую, а толькі капітанскую, не ведаю чаму, але і яна была тады немалая і жыць было можна прыпяваючы.

Як жылося прадзедку ў той час, дакладна сказаць цяжка, бо на пачатку Другой Рэчы Паспалітай мяне не было яшчэ на свеце, а пад канец яе было мне толькі два годзікі, значыць мелка яшчэ плаваў, каб даць ацэнку свайму ўласнаму жыццю, не то што чужому. Па ўсім аднак відаць, што жылося някепска. І не дзіва, з капітанскай пенсіяй напэўна жылося сыта ў той час. Надалей быў ён паніскам, надалей наведваў вёску, прывозіў падарункі і гасцяваў у брата і сваякоў. Прывёз, напрыклад, радыёпрыёмнік з навушнікамі, што было вялікай сенсацыяй у вёсцы.

У час адной такой гасціны моцна ўпала яму ў вока адна замужняя маладзіца, здаецца з Канюк яна была. Хаця не маладым ужо быў Парфенцій, але запаліўся па-юнацку да яе. І паступіў па-маладзецку на гэты раз, хаця можа і не зусім па-хрысціянску. Нагаварыў жанчыну кінуць свайго мужа і ехаць з ім у Вільню. І клюнула, яна згадзілася і ціхачом паехала з Парфенціем у Вільню. Афіцыйна мужам і жонкай яны, відаць, не былі, бо і як, яна ж была замужняю ўжо. Але жылі і спалі разам. І, відаць, такі стан ім адпавядаў.

Даведаўшыся прычыны знікнення жонкі, муж пачуўся вельмі пакрыўджаным і ад жалю і крыўды паехаў шукаць яе ў Вільню. Знайшоў, але дадому не вярнуў. Справу ўладзілі палюбоўна: жанчына асталася з Парфенціем, а муж за маральна-сексуальныя перажыванні і страты атрымаў, падобна, ад Парфенція паўтары тысячы злотаў кампенсацыі. За гэтыя грошы муж купіў пазней пляц у Беластоку.

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**27 кастрычніка**

1430 г. — памёр вялікі князь Вітаўт.

1505 г. — памёр Іван III, маскоўскі вялікі князь.

1728 г. — нар. Джэймс Кук, англійскі мараплавец.

1934 г. — пачатак „вялікага маршу” — адступлення арміі Мао Цзэ-дуна перад войскамі Чан Кай-шы.

**28 кастрычніка**

1855 г. — нар. Іван Мічурын, расейскі садавод.

1879 г. — нар. Леў Троцкі, расейскі рэвалюцыянер.

1904 г. — у ЗША ўведзена рэгістрацыю адбіткаў пальцаў злачынцаў.

1918 г. — Чэшская народная рада аб’явіла незалежнасць Чэхаславакіі; прэзідэнтам дзяржавы назначаны Томас Масарык.

1922 г. — італьянскія фашысты пад кіраўніцтвам Беніта Мусаліні занялі Рым.

1962 г. — Мікіта Хрушчоў згадзіўся вывесці савецкія ракеты з Кубы ўзамен за амерыканскую гарантыю ненападзення на гэту дзяржаву.

**29 кастрычніка**

1923 г. — Нацыянальны сход аб’явіў Турцыю рэспублікай, а наступнага дня абраў прэзідэнтам Мустафу Кемаля Пашу (Атацюрка).

1956 г. — атакай Ізраіля на Егіпет, пасля нацыяналізацыі апошнім Суэцкага канала, пачалася дзевяцідзённая вайна.

1967 г. — прапрэм’ера мюзікла *Hair*

**30 кастрычніка**

1922 г. — кароль Віктар Эмануіл III назначыў Беніта Мусаліні на пост прэм’ерміністра Італіі.

**31 кастрычніка**

1517 г. — Марцін Лютэр аб’явіў свае 95 тэзісаў, што дало пачатак Рэфармацыі.

1887 г. — нар. Чан Кай-шы, кітайскі палітык.

1922 г. — нар. Нарадом Сіханук, кампучыйскі палітык.

1943 г. — нар. італьянска-бельгійскі спявак Адамо.

1947 г. — 23 дзяржавы падпісалі ў Жэневе Агульны дагавор аб гандлі і пошлінах (GATT).

1971 г. — у парламенцкіх выбарах у Швейцарыі ўпершыню ўдзельнічалі жанчыны.

1993 г. — памёр Федэрыка Феліні, італьянскі рэжысёр.

**1 лістапада**

1755 г. — землятрасенне ў Лісабоне, у выніку якога загінула каля 32 тыс. чалавек.

1894 г. — Мікалай II, апошні расейскі цар, уступіў на трон.

1952 г. — ЗША правялі першае выпрабаванне вадароднай бомбы на Ціхім акіяне.

1970 г. — падчас пажару ў адной з французскіх дыскатэк загінула 146 маладых людзей.

**2 лістапада**

1815 г. — нар. Джордж Буль, англійскі матэматык.

1909 г. — нар. пісьменнік Максім Лужанін.

1917 г. — міністр замежных спраў Вялікабрытаніі Артур Бальфур упершыню выказаў магчымасць стварэння яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне.

1930 г. — нар. літаратар Алесь Барскі.

1950 г. — памёр Джордж Шоў, ірландскі пісьменнік. **(Ш)**

# *Парнасік*

### Бяроза

Бяроза, расцеш ты ўсюды:
Дзе цяпло і холад, чысціня і бруды.
Але дзе смурод і хімікаты — гібееш
І ў вачах нашых марнееш.
Мы таксама гэтага не пераносім,
У спіскі і кнігі заносім.
Люблю цябе горача, бяроза,
Ты прыгожая і не баішся марозаў.
Чалавек цябе знішчае,
Хаця закон гэтага забараняе.
Ты расцеш і выглядаеш як кветка,
Асабліва вясною і леткам.
Аднак заўсёды ты асаблівая,
Цэлы год таямнічая і небаязлівая.
Людзі зразаюць цябе для сваіх мэтаў
Дзіка, варварска, дашчэнту.
А ты ізноў выпускаеш новыя галінкі,
Яны кланяюцца ўсім, нат раслінкам.
Цябе таксама любяць птушкі:
Ловяць у тваім голлі розныя мушкі;
Ты прыстанішчам іхніх гнёздаў
На прадвесні і восенню познай.
І цэлае лета
Песня ніколі не прапета.
Пра цябе і мы песні спяваем:
Маладымі, і калі век дажываем.
Ты расцеш і на пясочку,
Дзе хлеба па кусочку.
Ты там вядзеш барацьбу —
У карэннях заўзятую малацьбу,
Так, каб пражыць і расці
І плён прынесці.
У красавіку твой сок смачны,
Дасканалы, лячэбны, араматны.
Шуміш ціха, пяшчотна ты, бяроза;
Ніколі не баішся марозаў.
Калі і ў печы гарыш — даеш многа цяпла.
І тут мы бачым многа дабра;
Ды ці мы гэта дацэнім?
Бярозку ні на што не заменім!
Яна расце ў нашых легендах і казках,
Аповесцях, расказах, прыказках.
У яе цені і голлі хаваліся нашы героі,
Якія ішлі мужна да бою.
Бяроза расце ў тундры — ў снезе,
На Сібіры — па цэлым свеце.
Аднак найлепшае месца ў нас,
Бо беларусы — асаблівы, спакойны клас.
Расці, бяроза, і развівайся
І штораз вышэй падымайся.
І каб мы падобна раслі
І плён прынеслі.

Мікалай ПАНФІЛЮК

### Крэда

Казала мне мая мама:
— Знай, сынок, як жыць.
Кепска не рабі нікому
І шчасце тварыць. —
Словы маці я выконваў,
Заўжды так стараўся,
Каб нашым жыццём
Кожны радаваўся.
Было шчасце на душы,
Сэрца весялілася,
Калі кожная сям’я
Жыццём радавалася.
Гэта я перажываў,
З імі весяліўся,
Шчыра кожнага дня
Я Богу маліўся.
Дзякуй Табе, Божа,
За шчодрую ласку,
За жыццё шчаслівае,
Шлю Табе падзяку.
Буду я маліцца,
Каб шчасця дваждаць
І з Табою, Божа,
Радасць пражываць.

Мікалай ЛУК’ЯНЮК

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне дзіўны, ды „цяжкі” сон. Нібы знаходжуся ў цэнтры горада. Вязу ў калясцы немаўля. Перада мною ідуць дзве мае суседкі. Дзіця тое — быццам адной з іх. Яны далекавата ад мяне. А перада мною мост. Рэчкі няма, мост зроблены на вуліцы. Каб ісці далей, трэба абавязкова прайсці праз яго. Ісці трэба па ступеньках уверх і зараз жа ступенькі вядуць уніз — да тратуара.

Я затрымалася пры мосціку і задумалася. Як жа я ўвалаку гэту каляску на мост? Людзей няма, каб памаглі, а гэтыя жанчыны ўжо на другім баку моста. Нічога не аставалася, як змагацца адной. Я асцярожна пхаю па ступеньках тую каляску наверх, потым — столькі ж ступенек уніз. І вось ужо я з вазком на тратуары. Разгубілася, не ведаю, што рабіць далей.

Сніўся зараз жа пасля таго сну і другі. Я ў сваёй кватэры ў вялікім пакоі. У пакой уваходзіць суседка, тая Кацярына, што сны свае да цябе, Астроне, высылае, ды хваліць, што так добра разгадваеш, усё-ўсюсенька ёй споўнілася.

І яна ўваходзіць у пакой з пасцеллю — падушкай і коўдрай. Кладзе тую пасцель на падлогу пры дзвярах — спаць тут рыхтуецца. Я гляджу, здзіўляюся. Што яна прыдумала?

МАРЫСЯ

Марыся! Твае сны сведчаць пра непакой, які вярэдзіць тваю душу. Нешта ў цябе вісіць на валаску, нешта пагражае табе ці тваёй сям’і, а ты прадчуваеш гэта ўсёй сваёй натурай. Ты ведаеш, што мусіш перайсці нейкі мост, а мост, як вядома, няўхільна прадвяшчае нейкае цяжкае падарожжа, вялікія перашкоды і цяжкасці. Табе прысніўся фактычна не мост, а віядук, бо пабудаваны ён быў не над ракой, а над вуліцай. Значэнне ён мае, аднак, падобнае, бо табе трэба было „ўзяць” гэтую перашкоду (хаця там былі ступенькі, дык каляска з дзіцём перашкаджала табе). Табе гэта ўдалося і ты неяк сышла з каляскай уніз. Але дзе ж тая жанчына, дзіця якой ты везла ў калясцы?! Нікога не відаць і ніхто не падаў табе рукі.

Твой другі сон сведчыць пра нейкую хваробу. Толькі чаму суседка прынесла сваю хваробу ў тваю кватэру?! Палажыла пасцель на падлогу і сама стаяла пры ёй, а гэта няўхільна сведчыць аб хваробе. Можа, гэта і будуць тыя перашкоды, якія ты ўсё ж пераможаш, так як і з віядука сышла сама.

АСТРОН

З майго панадворка

# Мікалай-жабрак

У вёсцы Азяблы, што ў Міхалоўскай гміне, жывуць рэнцісты Мікалай са сваёй жонкай Валяй, да старасці ім яшчэ далёка. Абое інваліды. Ён хварэе на гарэлку, жонка на гарэлку не дае яму, а і сама чырвоная. Мікалай ёй рады не дасць. Калі муж хоча выпіць, то бегае па вёсцы, жабруе, каб хто даў яму на паўлітра, а калі грошай няма дзе дастаць, выносіць на гарэлку ўсё, што змажа ўкрасці ў хаце, каб жонка не ведала. Апошнім разам бачыў я, як ішоў ён ды нёс слоік „вэк” з мясам на хутар, куды частавата ходзіць жабраваць.

Мне на думку прыходзіць пытанне: чаму такім маладым КРУС дае рэнту? Ці ў камісіі дахтары п’яныя, што не бачаць? Каму рэнту трэба, то грошай няма, а гэтым на гарэлку хапае!

# Сцяпан і Мар’я

У гэтых жа Азяблах жывуць пажылыя людзі — Сцяпан са сваёй жонкай Мар’яй. Даўно ім пайшоў дзевяты крыжык. Зямлі за рэнту не здалі. Сцяпан кажа: „Мая зямля, і я яе нікому не дам!” Быў у іх конь, але здох з голаду. Ёсць у іх дзве кароўкі, але не доіцца — ялавыя.

Апека дае грошы (ён хіба ветэран), і ўсе грошы, якія трапяцца, Сцяпан увальвае ў зямлю — арэ, сее, пераліваe з пустога ў парожняе, а зімой купляе сена каровам.

У нашай вёсцы рэнцісты ўсе, і ўсе абрабляюць зямлю. Ну, але як нам не піць, калі даюць грошы дармовыя?

НАГЛЯДАЛЬНІК

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. турэцкі палонны, 8. рэакцыя, водгук, 9. дзяржава з Кампалай, 10. парушэнне рэлігійных правіл, 11. пакрытая лёдам пляцоўка для катання, 13. форма арганізаванага злачынства ў СНД, 14. дзяржава між Сербіяй і Славеніяй, 15. мужчынскі голас, 19. дэталь, якая накладваецца, 21. расейскі паэт XIX ст., 22. адсутнасць вайны, 25. лісток з палітычным зместам, 27. сіцылійская арганізацыя, 28. расліна сямейства асаковых, 29. разбуральны вецер, 30. ацяпленне пасля марозу, 31. жыхары Мюнхена, 32. „паддвода” ў шматпавярховых дамах.

**Вертыкальна:** 1. смеласць, 2. расліна з насеннем у стручках, 4. матэрыял для далейшай апрацоўкі, 5. перамяшчэнне ў прасторы, 6. краіна на ўсходзе Азіі, 7. сумесная дзейнасць, супрацоўніцтва, 12. група блізка знаёмых асоб, 13. лапата, 15. аздоба са стужкі, 16. праяўленне палавых пачуццяў, 17. муж Евы, 18. асобны здымак на фатаплёнцы, 20. аўтарскі рукапіс, 23. вялікі сібірскі горад, 24. паўднёваамерыканскі страус, 25. норма расходу, 26. мясцовасць на поўначы Беларусі, 29. адзінка вымярэння, напр. сілы землятрасення. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 36 н-ра:**

Гарызантальна: Вязьма, Урумчы, лісток, Акра, сага, каардынаты, Фуко, рада, Лерыда, Дакота, штанга.

**Вертыкальна:** ватрак, Малі, урок, Чыкага, Страдывары, ракако, сатыра, Фульда, дарога, Лета, Дашт.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.


# Ніва

**„Niwa”**

ul. Zamenhofa 27. 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Пародыі

**Вяртанне ў хлеў**

*Вілы рытмічна*
*Лічаць мінуты*
*Гноегадзіны...*

***Уладзімір Гайдук***

Быў і я
Калісьці маладым,
Ды праляцелі ветрам
Мае
гноехвіліны,
гноегадзіны,
гноесуткі
і гноегады.
Агрубелі рукі,
Ў равеснікаў — жываты,
Вінаваты ў гэтым
Гноехвіліны,
гноегадзіны,
гноесуткі
і гноегады.
Папяросу скуру,
Вілы вазьму
І вярнуся сюды,
Дзе засталіся мае
Гноехвіліны,
гноегадзіны,
гноесуткі
і гноегады.

**Сяргей Чыгрын**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У хуткай дапамозе звоніць тэлефон:
— Пан доктар, мой муж памылкова напіўся бензіну. Што рабіць?!
— Галоўнае, хай цяпер не курыць.

* * *

Бабулька развітваецца з лекарам:
— Так я прывыкла да вас, пан доктар, што смуціць мяне думка, хто будзе мяне лячыць, як вы памрэце.

* * *

Лекар прымае жанчыну ў бальніцу:
— Вы ў цудоўнай форме! Маю надзею, што пратрываеце пабыўку ў нас.

* * *

Сустракаюцца два сябры:
— Хварэеш хіба?
— Не. А чаму пытаеш?
— Бо я бачыў, як ты выходзіў з аптэкі.
— А калі б ты бачыў, што выходжу з могілак, то падумаў бы, што я памёр?..

# Ніўка

## Наша пошта



**Уважаемые товарышчы пенсионеры, ветераны, жэншчыны!**

Вы за меня голосовали, поддержали на референдуме. Чэм жэ вы тепер не довольны? Я же обешчал и выполнил всё , что мог: белорусский язык практичэски уничтожен, этот белорусский флаг и "Пагоня" запрешчэны. Неужели вы не ошчутили, как после этого всё улучшилось, особенно ваше благосостояние?

Не верте, что остановились заводы, что людям месяцами не плотют зарплату, что растут цены. Это распускают многочисленные подонки и мерзавцы, продавшиеся Западу и Украине. Главное — не экономика, а символика! Говорат, что мой красно-зелёный флаг некрасивый, а герб смешной. Это чуш! Мы с завхозом только немножко подвинули колоски, посмотрэли — очэнь симпатично. И не надо смяяцца! Конечно, и мои символы через пару лет отменят и восстановят национальные, но пока меня самого не отменят, я эти колоски заставлю уважать — повешу в каждом сортире.

Зато у меня растёт мошчный вертикальный ствол и главное — есть крэпкая власть! И я её никакому органу не отдам. Я рэгулярно перэтрахиваю все свои кадры и знаю кто врот, а кто не врот. А если милиционеры будут тайно сочуствовать забастовшчыкам и демонстрантам, я брошу войска. Если же солдаты откажутся подчиняться — вызову российский спецназ.

Мои враги распустили слух, что мол, 26 апрэля я скрывался у себя в Дроздах и, от испуга закрывшись в уборной, наложил в штаны. Это хлусьня! Я никогда не обсирался от страха, только в моменты гнева. Но неужели меня нельзя по-чэловечэски понять? Я как и вы тожа имею слабости; однако мои люди подтвердят — от меня совершэнно не воняло. Я ж не идиот! Я совершэнно здоров психичэски. И вопшчэ — у меня рэгулярный и твёрдый стул — питаюсь я очэнь хорошо. От того я мошчэн и прэкрасно выгляжу. И хоть я мужык ешчо не старый и на ласку заводной, но люблю я только вас — пенсионеры, ветераны, отставники-военные. Вы — моя единственная опора! Я так стараюсь, но мне мяшают. Кругом одни враги, от меня отвернулись все: интеллигенция, рабочые, бизнесмены, а молодёжь просто ненавидит меня, фашистом называют. Подумаешь, Гитлера разок-другой похвалил, ну кровишчы немного пустил на улицах... А что тут такого? Я ж не немец какой и не "цыган" — я очэнь порадочный, суперчэсный чэловек истинно русской культуры, что вы и чуствуете по моей красивой сочной рэчы.

А напоследок заявляю: за оставшиеся мне 3 года я ешчо очэнь много смогу наворотить — долго меня будете вспоминать.

ВАШ ВСЕНАРОДНЫЙ.

**Минск, 5.10.1996 г.**

Уважаемые товарищи из белорусской газеты „Нива". Спасибо вам за статью „Старого белоруса" в 39 номере вашего еженедельника. Мы очень благодарны ему и всем добрым людям за поддержку нашему Всенародному. Он тоже не забывает о вас, всё думает про вас и за вас. Этот плакат, который мы вам досылаем, свидетельство Его заботливости вашими делами.

**Областной Минский комитет в поддержку Всенародного**

# Павядзэнні Рэдактара П.

Чарговы адрэзак *павядзэнняў* Рэдактара П., які *накіроўваем да вачэй* нашых чытачоў, мы пачнем з пісьма, у якім аўтар праводзіць татальную крытыку нашай дзейнасці на лінгвістычнай ніве. Вось яго змест. Мы спадзяемся, што ён напраўду *ўцешыць вашы вочы.*

**Экспертыза**

Даражэнькія рэдактары „Нівы", ой, хіба не вучыліся вы ў нашых „белліцэях", а пра беларускую філалогію ў Варшаве і не чулі! Вось таму і не ўдаецца вам перакласці на польскую мову складаныя „звароты" Рэдактара П.

„Павядзенні" — гэта powodzenia (у мн. ліку; адз. лік — powodzenie). Не кожны з нас карыстаецца „павядзеннямі". Прапаную скласці ўрэшце салідны беларуска-польскі слоўнік складаных выказванняў адукаваных людзей у нашым асяроддзі. І так:

*розглас* — jeden głaz;
*жадаць* — żądać;
*паводзіны* — powodzie (l. mn.);
*шмат* — kawałek tkaniny;
*поцiскі* — pociski.

У выніку ж мы атрымаем наступнае:
*жадаць паводзін* — żądać powodzi (nie jednej);
*жадаць шмат поціскаў* — żądać serii pocisków.

Віншую вас з „павядзеннямі", „жадаю паводзін", „шмат поціскаў" і „розгласу".

**Эксперт Філаг Мовавед**

Оўшам, мы згаджаемся з экспертызай, але толькі палавічна, бо ў агульным прыпадку няма канечнасці ўкладаць новы слоўнік, а-іле выданне такое ва ўшахсвеце ўжо ёсць. Завецца яно, натабе-не, *Уладкаваны прахоўнік беларуска-польскіх павядзэнняў*, што пракладаецца на польскую мову як „Uporządkowana skarbnica powiedzeń białorusko-polskich". Карыстаемся гэтым выданнем ілекрадзь заходзіць канечнасць пракласці новае павядзэнне Рэдактара П. Нязаўша, маецца разумець, нашы праклады спатыкаюцца з прыхільным адборам. Але мы абяцаем далажыць ушэлькія старанні, штоб праклады наступных павядзэнняў прыпалі да густу нашым адборнікам. За параду, крытыку і словы атухі зверху дзякуем.

А вось і чарговае *павядзэнне*:
**песня накіравана да вушаў** — piosenka skierowana do uszu.

# Сардэчныя тайны

Ведаеш, Сэрцайка, мы тут з дзяўчатамі надумаліся напісаць табе пісьмо і просім, каб ты нам адказала вельмі хутка. Мы ўсе вучымся ў трэцім класе аднаго тэхнікума, але не скажу, якога, бо нехта мог бы нас расшыфраваць. Мы не баімся таго, што ў нашых хатах кожную пятніцу паяўляецца „Ніва", а таго, што нехта мог бы сказаць пра нас: нявыхаваныя дзяўчаты. Справа, пра якую мы можам запытацца, надта далікатная.

У нашым класе ёсць адна дзяўчына. Яна з незаможнай сям'і, даволі бедна апранутая. А сёння такое не ў модзе, сёння ў нас некаторыя дзяўчаты мільёнамі пад носам памахваюць, дэманструючы сваю вышэйшасць над тымі, каму бацькі такіх грошай даць не могуць.

Тая дзяўчына, пра якую мы пішам, даволі прыгожая, але, відаць, тая беднасць яе страшна прыгнятае. Хочучы даказаць, што, хоць яна і не „грашастая", то хлопцаў можа перабіраць як хоча. А тыя, нягледзячы на ўсё, да яе ліплі, як мухі на мёд.

Са сваім дзявоцтвам яна развіталася ўжо ў першым класе. А пасля ўжо было ёй усё роўна. Хутка зразумела, што можна мець ад гэтага нават карысці. Ужо на нашых сяброўкі глядзець не хацела, а сустракалася з мужчынамі, намнога старэйшымі за яе. Мы яе сустракалі з імі тут і там. Не мусіў быць нават прыгожы ці прынамсі статны — калі меў грошы, дык ёй падыходзіў.

Невялікія, відаць, былі гэта грошы, бо толькі зрэдку паяўлялася ў яе новая блузачка або чаравічкі. Бацькі на гэта не мелі ёй з чаго даваць, гэта яна нам сама гаварыла. Дык адкуль брала? Сябры падсмейваліся: за пачку абыякіх папяросаў аддаецца.

Мы ў сваім кругу часта дзіву дзівіліся: як так можна жыць? Ды і дзе падзеўся яе дзявочы гонар, чыстыя пачуцці? Як можна ісці ў пасцель з амаль незнаёмым мужчынам? А наогул, як яна можа сябе так паводзіць, яна ж рэпрэзентуе ўвесь наш клас, усю школу! Што пра нас будуць думаць? Мо людзям будзе здавацца, што ўсе дзяўчаты з нашага тэхнікума такія.

Але што з таго, што мы гаворым між сабой! Яна і так прадаўжала рабіць сваё. Нават ужо ёй гэта пачынала падабацца. І раптам — закахалася. Хлопец сапраўды быў такі прыгожы і сімпатычны, што кожная з нас усё аддала б, каб толькі хадзіць з ім. Ён працаваў там, дзе мы праходзілі практыку, і наша вясёлая сяброўка адразу кінулася яму ў вочы. Не даваў ёй спакою, увесь час круціўся каля яе, не пільнуючы іншых вучняў. І ўяві сабе, гэты вар'ят запрапанаваў ёй шлюб, не ведаючы нічога пра сваю каханую. Яна шчаслівая, хоча выходзіць замуж ды як мага хутчэй згуляць вяселле.

І мы з дзяўчатамі падумалі, што мо варта папярэдзіць гэтага хлопца перад пагражаючай яму катастрофай. Шлюб — гэта на ўсё жыццё. А мы не верым, што наша сяброўка, будучы ўжо замужняй, не будзе працягваць сваёй практыкі.

Таму і звяртаемся да цябе з пытаннем: сказаць яму ці не?

**Дзяўчаты**

Ну, даражэнькія дзяўчаты, я думаю, што вы ўжо дастаткова нагаварыліся, дык цяпер якраз варта памаўчаць. Можа, вашай сяброўцы пашанцавала пайсці па добрай дарозе. Часта здараецца, што пасля такога „галопу" такія дзяўчаты бываюць вельмі добрымі жонкамі.

Вы нібы жадаеце дабра таму хлопцу, а ў сапраўднасці дык як бы зайздросціце, што выбраў ён такую дзяўчыну, а не адну з вас...

Не, вы не з дабрыні такое надумалі, каб сказаць яму пра ўсё. Вам разбіць гэта ахвота. Што вось такая нібы бедная, гуляка, а ён за ёю шалее. Дык няхай знае, што можна яшчэ ёй усё сапсаваць, праўда?!

Калі б вы былі добрымі сяброўкамі, дык замест таго, каб падсмейвацца, пагаварылі б з ёю сур'ёзна або папрасілі настаўніцу, каб яна дапамагла.

Хлопца не шкадуйце, ён сабе крыўды зрабіць не дазволіць. Сам няхай вырашае, а пасля, калі-што, сам на сябе крыўдаваць будзе.

Даносчыкі наогул не маюць добрых інтэнцый, а яшчэ ж і невядома, каму б паверыў той хлопец: вам ці сваёй каханай.

**Сэрцайка**